—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
27
СНЕЖНЯ
1991 г.
№ 52 (3618)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ЗАКАЛЬЦОЎВАЮЦЬ?

**Васіль ЗУЕНАК: «Прыгадаем «дары», гістарычныя памяткі, прывезеныя ў Беларусь Барысам Мікалаевічам Ельцыным — тую ж грамату маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ад 1654 года жыхарам Оршы — аб «узяцці» іх пад сваю апеку... Што гэта, — няўдалы жарт прэзідэнцкіх экспертаў-памочнікаў? Няведанне нашай гісторыі! Ці, можа, высакамернае ігнараванне яе, напамін, каб ведалі сваё месца!»**

СТАРОНКА 2

## «ТРЭБА ПАВЕРЫЦЬ У СВОЙ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГЕНІЙ, У ЗДОЛЬНАСЦЬ ПАСТАЯЦЬ ЗА СЯБЕ»

**Гутарка Юрася ЗАЛОСКІ з Нілам ГІЛЕВІЧАМ.**

СТАРОНКІ 5, 12

## «ПАВІННА Ж І Ў ВІЦЕБСКУ БЫЦЬ НЕШТА ДОБРАЕ...»

**Нататкі з фестывалю імя І. Салярцінскага.**

СТАРОНКІ 10—11

## ЦАР-БАЦЮХНА: КАМУ ПАТРЭБНА МІФАТВОРЧАСЦЬ

**Аляксандр ДРАКАХРУСТ: «Шчырае здзіўленне выклікаюць выказванні некаторых «маладагвардзейскіх» публіцыстаў аб тым, што царская Расія зусім не была турмой народаў, што, наадварот, народы гэтыя свабодна жылі і квітнелі пад царскім скіпетрам... Трэба быць ці зусім асепленым фанатыкам, ці цынічным дэмагогам, каб абараняць і апраўдваць нацыянальную палітыку царскага самадзяржаўя — тупую, злосную, бессэнсоўную, жорсткую...»**

СТАРОНКІ 14—15

## ВЫСОКІ БЕРАГ

**Вандроўка па родных мясцінах Якуба Коласа.**

СТАРОНКА 16



Гэтыя здымкі можна было б назваць проста—«Салодкія (ці пчаліныя?) сны»: настрой здымкаў—апраўданы. Але сёння думка наша міжволі скіруецца і ў іншым напрамку.

Што можа быць саладзей за мёд?.. Воля! Да волі, да незалежнасці мы дажылі... Цяпер трэба працаваць, як пчолы, і будзем з мёдам. Добра працавалі мы і раней, скажаце вы, але на наш мёд заўсёды знаходзіўся чужы рот. Хай жа ў новым годзе наш мядок будзе нашым. На тое яна і Незалежнасць...

Фота А. КЛЕШЧУКА.



# Кола Дзён

Падпісанне «Белавежскага пагаднення» некалькі тыдняў таму выклікала ў многіх нешта падобнае на шок. Падпісанне ў мінулую суботу ў Алма-Аце дакументаў, паводле якіх у Садружнасць будуць уваходзіць цяпер 11 Незалежных Дзяржаў было ўспрынята ўжо амаль будзённа, па-дзелавому. Усе разумеюць, што галоўныя праблемы наперадзе.

22 снежня — самы кароткі дзень у годзе. Але ў гэты дзень сонца паварочвае на вясну...

**19 СНЕЖНЯ**

**Каралеўства Швецыя прызнала незалежнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. Гэты факт афіцыйна засведчаны ў тэлеграме міністра замежных спраў Швецыі Маргарэты Аф Углас на адрас міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі.**

**20 СНЕЖНЯ**

**Напярэдадні каталіцкіх калядаў улады Польшчы рэзка абмежавалі ўезд у краіну турыстаў з былога Савецкага Саюза.**

**21 СНЕЖНЯ**

**Азербайджан, Арменія, Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Малдова, Расійская Федэрацыя, Таджыкістан, Туркменія, Узбекістан і Украіна падпісалі ў Алма-Аце сумесную Дэкларацыю і шэраг пратаколаў, якія засведчылі ўтварэнне на роўных правах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Садружнасць не з'яўляецца ні дзяржавай, ні наддзяржаўнай структурай.**

**Пытанні, звязаныя з рэформай Узброеных Сіл былога СССР, будуць вырашацца на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў у Мінску. Да гэтага часу абавязкі вярхоўнага галоўнакамандуючага выконвае маршал Я. Шапашнікаў.**

**22 СНЕЖНЯ**

ў Тбілісі ўзброеныя сілы апазіцыі пачалі штурм прэзідэнцкага палаца з ужываннем усіх відаў лёгкай зброі і артылерыі. Ёсць забітыя і параненыя. Галоўнае патрабаванне апазіцыі — безумоўная адстаўка прэзідэнта Грузіі Гамсахурдзія.

У Маскве і Санкт-Пецярбурзе прайшлі маршы і мітынгі пратэсту «галодных чэргаў».

**23 СНЕЖНЯ**

Камітэт канстытуцыйнага нагляду СССР аб'явіў аб спыненні сваёй дзейнасці.

У Будапешце тэрарысты падарвалі аўтобус з яўрэйскімі эмігрантамі з Савецкага Саюза. Некалькі чалавек паранена.

**24 СНЕЖНЯ**

ў Маскве пачалася нарада кіраўнікоў урадаў незалежных дзяржаў.

На заключнае пасяджэнне сабраўся Савет Рэспублік Вярхоўнага Савета неіснуючага СССР. Савет Саюза былога парламента фактычна спыніў сваю дзейнасць яшчэ раней.

**25 СНЕЖНЯ**

на Беларусі рашэннем парламента рэспублікі святкавалася Нараджэнне Хрыстова па каталіцкім календары. Упершыню разам са Старым і Новым Светам.

М. С. Гарбачоў у выступленні па тэлебачанні заявіў аб спыненні сваёй дзейнасці на пасту Прэзідэнта СССР.

Месца Савецкага Саюза ў ААН заняла Расійская Федэрацыя.

# ЗАКАЛЬЦОЎВАЮЦЬ?

Палітычнае надвор'е сёння чымсьці вельмі нагадвае тое, што мы бачым за акном, пад родным небам: на календары снежань, зіма, а снегу і ў паміне няма... Асенні, назойлівы дождж, туман, а то і смог напаўзае...

Абманлівае неба, абманлівая палітыка. Шмат каляндарных, дзяжурных абяцанняў — і ніякіх канструктыўных перамен. Дэмагагічная «глаголіца» справа і злева зліваюцца, і— як ні дзіўна — кантакт гэты не дае «кароткага замыкання», нават іскры не ўспыхвае ніводнай. Быццам так і задумана было: пакрычым, пакрычым ды на тым самым баку і ляжам...

Зрэшты, да такіх паваротаў нам, беларусам, не прывыкаць. Мы ўсё чакаем, што дзеля нас нехта пастараецца—прыйдзе і зробіць...

Дык жа і стараліся. Дык жа і рабілі. Як і стараюцца і робяць сёння. Не «дзеля нас», а «за нас». Як бы падказваюць, як бы падштурхоўваюць, куды ісці... А ў сістэме гэта выглядае іншым, і не менш лагічным, «закальцаваннем», толькі не нашым, «тутэйшым», а знешнім, дзе зноў жа сыходзяцца і, паразумеўшыся, кантактуюць правыя з левымі.

Прыгадаем для пачатку «дары», гістарычныя памяткі, прывезеныя ў Беларусь Барысам Мікалаевічам Ельцыным — тую ж грамату маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ад 1654 года жыхарам Оршы — аб «узяцці» іх пад сваю апеку. Так, «узяцці» былі, але не толькі перамогамі - яны вызначаліся, але і ўцёкамі з боек, а найбольш—крывавымі разарэннямі вёсак і гарадоў беларускіх, вынішчэннем людзей — на працягу трохсотгадовай вайны Масковіі супраць беларуска - літоўскай дзяржавы.

Што гэта, — няўдалы жарт прэзідэнцкіх экспертаў - памочнікаў? Няведанне нашай гісторыі? Ці, можа, высакамернае ігнараванне яе, напамін, каб ведалі сваё месца?

Шукаючы адказ, нават губляешся ў нейкай прыкрай няёмкасці. Відаць, яе, гэтую няёмкасць, а хутчэй за ўсё дыпламатычную несвоечасовасць сітуацыі, адчулі і самі дарыцелі, бо неяк жа надта паспешна «згарнулі» папку з «гістарычнымі рэліквіямі», — дужа нявыгадныя асацыяцыі выклікалі яны — асабліва ў тых, хто хоць збольшага знаёмы з гісторыяй. Пра гэта нагадваў у «звяздоўскім» артыкуле Зянон Пазняк. Можна і яшчэ тое-сёе нагадаць, — скажам, з той жа, аршанскай, тэмы: вось толькі гады — 1508, 1514, 1534, 1535, 1563, 1564, 1580 — калі была ўзята на шчыт і спустошана Орша з воласцю... А яшчэ раней — тут жа, ля Оршы лютаваў Святаслаў Смаленскі — паліў, садзіў на кол жанчын і дзяцей, давіў жыўцом пад зрубамі (спецыяльна ўзнімалі за вуглы будыніну, складвалі, як снапы, людзей—і апускалі...)

Так што няёмкая абмылачка выйшла з «прэзентам»...

Аднак — напамін сімптаматычны... Бо ён не адзіны і не адзінокі. «Прэзідэнцкі» быў як бы з «левага боку». А вось — з «правага»: ідзе на старонках «Нашего современника» (№ 11, 1991) дыялог «кансерватараў» (так пажадалі сябе называць прыхільнікі лініі і пазіцыі, зарыентаванай гэтым часопісам), — гутараць Мікалай Дарашэнка і Таццяна Глушкова. Адказваючы на пытанні, Таццяна Міхайлаўна то згадвае, як «рвали тело великой державы на «самостийные» воровские «республики» и мародерствовали» (гэта пад час тых самых войнаў?!.); то шчыра адкрываецца: «Российская государственность не знала подобных «пределов»! Тех, что отмечены на картах советского времени границами РСФСР. Произвольными, суженными — в пользу прибалтийских республик, в пользу Казахстана, Молдавии и т. д. — границами... Российская государственность не знала и федеративности: она утверждала единое и неделимое государство, а не фарс суверенитетов...»; то папулярна тлумачыць: «Ведь то что именуют нашим «имперским чувством», следовало бы назвать просто естественно - патриотическим сознанием, которое куда **историчней**, выше, здравомысленней чем современные этнократические идеалы в наших демократизирующихся республиках...» (А чаму не дапускаецца, і ў думках няма такога, што гэтыя «этнократические идеалы» могуць быць таксама праяўленнем «естественно - патриотического сознания»?); то настойліва паўтарае: «северо - западного и юго-западного края...», «Малороссии и северо-западного края...» (гэта, трэба думаць, — пра нашу Беларусь).

Адкуль гэта ўсё? З якой «оперы»? І што нагадвае?..

І, нарэшце, яшчэ адна падказка: як нам, беларусам, наладзіць свае дзяржаўныя справы (дакладней, не «як нам», а як, наогул, за нас і без нас, вырашыць наша беларускае «пытанне»). «Падказвае» нехта Андранік Міграня (толькі б яму і клопату...) праз таксама дужа радыкальны штотыднёвік «Московские новости» (№ 50, 1991): «Если бы России и Белоруссии удалось договориться о создании единого федеративного государства с очень широкой внутренней автономией (наподобие штатов в Америке, где экономический гигант Калифорния не является угрозой для Нью-Гемпшира или любого другого крохотного штата), это соглашение позволило бы...» Што «дазволіла» б — як кажуць, «не суть важно». Важна іншае — гэтая дзіўная «вось»: Расія («гигант Калифорния»?)—Беларусь («Нью-Гемпшир»? «Или любой другой крохотный штат»?..)

Як вам падабаецца? І чаму гэта так — безапеляцыйна і непрыкрыта? (Штат—і не болей! Ні краіны, ні народа, ні суверэннай дзяржавы...) Ці не таму, што мы самі дапусцілі (ці апусціліся) да гэтага?

І грызе трывога: «Закальцоўваюць?..»

**Васіль ЗУЁНАК.**

# Хроніка Адраджэння

У межах багдановічаўскіх урачыстасцей 9 снежня адбылося пасяджэнне рады Міжнароднага аб'яднання беларусістаў. У ім удзельнічалі беларусісты Аўстрыі, Беларусі, Латвіі, Летувы, Расіі, Украіны, Швейцарыі. Рада вітала апошнія палітычныя падзеі ў рэспубліцы (падпісанне белавежскіх пагадненняў). Разам з тым гаварылася аб павышэнні адказнасці членаў МАБ у справе Адраджэння. За мінулы год беларусісты папрацавалі чынна: правялі першы міжнародны кангрэс у Менску, удзельнічалі ў навуковых канферэнцыях у Гародні і Вільні, падрыхтавалі штогоднік «Беларусіка», серыю кніжак «Свет пра Беларусь» і інш.

На будучы год запланаваны: канферэнцыя ў С.-Пецярбурзе, прысвечаная беларускаму руху ў гэтым горадзе, урачыстасці з нагоды юбілеяў Я. Купалы і Я. Коласа, дні беларускай літаратуры ў Германіі і інш.

Выказвалася меркаванне аб наданні Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту імя Я. Коласа.

●

Пабачыў свет №2 — 3 квартальніка згуртавання татараў-мусульман на Беларусі «Байрам». Выданне прыцягвае ўвагу змястоўным зборам інфармацыі пра гісторыю і развіццё татарскага руху на Беларусі, бібліяграфічнымі звесткамі, рэлігійнымі тэкстамі.

**ЧОРНАЯ БЫЛЬ**

**Гэты ліст рэдакцыя атрымала з Амерыкі. Ёсць і там нашы суайчыннікі, каму баліць за Чарнобыль—і радыяцыйны, і духоўны. Аўтарка допісу Вацлава Вярбоўская зараз жыве ў Кліўлендзе і не падзяляе гэтыя паняцці: адоленне Чарнобыля радыяцыйнага бачыцца ёй праз пераадоленне чарнобыля ў душы.**

**Друкуючы (з невялікімі скарачэннямі) ліст аўтаркі, дадамо, што не толькі маральнасцю жыве гэтая жанчына, але і справай: дапамагае ладзіць навучанне нашых урачоў, наводзіць кантакты між ЗША і Беларуссю і г.д.**

# РАЗАМ НЯСЁМ КРЫЖ...

**«Хваробы і смерць прысутнічаюць у свеце, як вынік яго падзення і грэху»,— пісаў Апостал Павел у пасланні да яўрэяў (Яўр.2:14). Я прачытала гэтыя словы і супынілася... Падумала: «За што церпіць мая шматпакутная Беларусь?.. Дзе пачатак яе падзення і грэху?.. (А гэта значыць, і нашага з вамі падзення, і нашага з вамі грэху). Дзе пачатак? У чым? Можа, у саміх сабе?..» Бог ніколі не прыносіць людзям хваробы і пакуты — наадварот: гэтыя д'ябальскія праяўленні знішчэння. Ён ператварае ў сродкі дзеля нашага збаўлення. Толькі таму мы можам сказаць: «Гасподзь пасылае хваробу». Калі захварэе хрысціянін, альбо цэлая хрысціянская нацыя, яны разумеюць, што хваробы гэтыя выкліканы не толькі іх уласным грэхам, але і грэхам усяго свету... Што такое, у рэшце рэшт, — грэх? Гэта — непаважанне, недапамога, непадтрымка адзін аднаго. Зусім не буду арыгінальнай, калі скажу, што грэх ёсць нелюбоў...**

**Гэтаксама і чарнобыльскую бяду мы вытрымаем тады, калі зразумеем, што толькі любоў, толькі падтрымка і ўвага да тых, хто побач, дапаможа нам. Толькі перажываючы чужыя боль і бяду, мы выжывем самі. Другога шляху — няма. Калі кожны з нас, беларусаў, гэта зразумее і будзе ўсё рабіць дзеля гэтага (а што рабіць, кожнаму падкажа ягонае сэрца), то неяк разам, душа да душы, мы, можа, і акрыяем.**

Міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка калісьці сказаў, што «мы засталіся адны з Чарнобылем». Гэта не дзіўна: у нас такія адносіны адзін да аднаго і між народамі, што было б дзіўна, калі б усе адзін перад адным кінуліся нам дапамагаць. Праблема Чарнобыля, у першую чаргу, ёсць праблема **духоўная**. Толькі з'яднаўшы душы, з'яднаўшы намаганні, атрымаем энергію, якая дасць плён.

...Чатыры беларускія ўрачы — жанчыны з Інстытута радыяцыйнай медыцыны — прыехалі ў Амерыку, каб шукаць дапамогі свайму інстытуту, набраць дэфіцытных рэчаў, якіх так не хапае для лячэння хворых і, што асабліва важна, для дыягностыкі.

«Мы адны са сваім горам,— расказала мне кіраўнік гэтай дэлегацыі прафесар Ларыса Мікалаеўна Астахава,— мы з такімі цяжкасцямі бяром кроў у хворых дзяцей, каб ведаць вынікі хваробы, і... не можам ведаць гэтых вынікаў, бо... не маем адпаведных рэактываў. Мы маем «Біямек» і «Тэхнікон» (біяхімічныя аналізатары), але нам патрэбны дыягностыкумы, а іх — няма, і гэтыя аналізатары—нямыя. Нашы ж рэактывы да іх не падыходзяць... Гінуць сывараткі дзіцячай крыві з-за адсутнасці гэтых рэактываў...»

Супрацоўнікі інстытута едуць у «зоны», каб лячыць хворых, і ўжо самі атрымалі пухліны шчытападобнай залозы...

— Чаму так атрымліваецца? — пытаюся я.

— А таму, — адказвае мне прафесар Астахава, — што ўсё ўпіраецца ў фінансы... (А фінансы,— падумала я,— упіраюцца ў што? Ці не ў тых «глухіх» і «сляпых» да нашага гора людзей?). Вярхоўны Савет Саюза выдзеліў 6 млрд. рублёў, якія ідуць у Мінздраў Саюза на чарнобыльскія праблемы, і ён падзяляе гэтыя грошы так: 50 працэнтаў — на РСФСР, 40 — на Украіну і толькі... 10 працэнтаў — на Беларусь! Але ж усе добра ведаюць, што на Беларусі забруджана 70 працэнтаў яе тэрыторыі. А на тых мясцінах, што нібыта «чыстыя», праблем не менш.

На Украіне, як вядома, 20 працэнтаў забруджаных зямель і 8 працэнтаў — у РСФСР. Каб рукі тых, хто распарадкоўваецца гэтымі грашыма, не цягнулі «коўдру» на сябе, можа б, і душы іхнія здрыгануліся ад чужога гора. Але ж пакуль што мы маем тое, што маем. І таму дапамагчы можам мы толькі самі сабе. Мы, беларусы, павінны быць разам. Можа, камусьці і падабаюцца сваркі паміж усялякімі фондамі, але ж мы не павінны апускацца да гэтага ўзроўню. Мы нясём цяжар, Крыж вялікай нацыянальнай трагедыі, і мы павінны падстаўляць плячо адзін аднаму. Каб выжыла нацыя. Каб выжылі дзеці і ўнукі. Ад таго, як мы злучым рукі і душы, будзе залежаць будучыня нашай з вамі, будучыня Бацькаўшчыны.

Я сустракалася ў Пітсбургскім універсітэце з кіраўніцтвам медычнага цэнтра, і адзін з іх, доктар А. Дэй, расказаў мне такую гісторыю. Міністр аховы здароўя Украіны прыехаў у Амерыку некалькі гадоў назад, каб знайсці дапамогу для сваіх хворых. Прыехаў ціха — баяўся маскоўскага незадавальнення. Шукаў даволі доўга, але ж знайшоў. Знайшоў паразуменне ў Вашынгтоне і ў Пітсбургу, атрымаў немалую падмогу.

Падумалася тады: добра было б, каб і наш міністр апынуўся тут, у Амерыцы, і таксама знайшоў нешта, што так неаб-

## «МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ...»

23 снежня Купалаўскі тэатр стаў месцам святкавання 74-х угодкаў Усебеларускага кангрэса (снежань 1917 г.). На гэтым кангрэсе прадстаўнікі ўсіх станаў і партый Беларусі выказаліся за незалежнасць Бацькаўшчыны, і гэта стала прычынай разгону кангрэса бальшавікамі, бо тыя бачылі Беларусь толькі як «Северо-Западный край».

Аб гістарычным значэнні кангрэса гаварылі народныя дэпутаты Беларусі В. Голубеў, З. Пазняк, гісторык В. Скалабан. У сваёй прамове старшыня сойма БНФ, у прыватнасці, адзначыў, што наша незалежнасць усё яшчэ застаецца дэкларатыўнай. Бо мы дагэтуль не маем уласнага войска, уласнай валюты, сувязяў з іншымі краінамі на ўзроўні пасольстваў і ўласнай мытнай прасторы. А значыць, барацьба за незалежнасць працягваецца.

Пасля кароткіх прамоў прагучаў беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа» ў выкананні мужчынскага хору. Потым адбыўся спектакль «Тутэйшыя» па вядомай п'есе Янкі Купалы, шмат у чым сугучнай і сённяшняй сацыяльна - палітычнай сітуацыі на Беларусі.

Скончылася вечарына спяваннем беларускага гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...».

**В. БОГУШ.**

## АПОШНЯЯ ГАСТРОЛЬ?

### Як у Мінску прымалі Уладзіміра Жырыноўскага

У Палацы спорту ў Мінску традыцыйна праводзяцца навагоднія святкаванні, прадстаўленні, канцэрты. Днямі над яго ўваходам з'явіўся транспарант, які запрашаў на сустрэчу з лідэрам Ліберальна - дэмакратычнай партыі СССР Уладзімірам Жырыноўскім. Пры жаданні і пэўнай долі фантазіі можна ўявіць Жырыноўскага ў ролі Дзеда Мароза, а дазвол Мінскага гарвыканкома на правядзенне сустрэчы — пераднавагоднім жартам.

Ды толькі якія тут жарты?!

Такога гонару не ўдастойвалася нават Ніна Андрэева, якая разам са сваімі саратнікамі яшчэ паўгода назад вымушана была задаволіцца ўсяго толькі памяшканнем Мінскага Дома афіцэраў.

За гадзіну да пачатку сустрэчы менчукоў з палітычнай «супер-зоркай» гарвыканком перадумаў і свой дазвол скасаваў. Што з гэтага атрымалася? Мяркуйце самі...

Каля зачыненага Палаца спорту амаль у поўнай цемры сабралася некалькі тысяч чалавек. З'яўленне Уладзіміра Вольфавіча перад народам было сустрэта большасцю недружалюбна. Шум, свіст, выкрыкі «Фашыст!» і «Вяртайся ў Маскву!» Спробы маскоўскага госця перахапіць ініцыятыву і выступіць заглушаліся моцным скандзіраваннем: «Бе-ла-русь!»

Атмасфера ўсё больш наэлектрызоўвалася. Ахоўнікі партыйнага лідэра ды й міліцыя яўна гублялі кантроль над сітуацыяй, і Жырыноўскі палічыў за лепшае рэціравацца.

Але ў натоўпе аказалася нямала тых, хто прагнуў бясплатнага «прадстаўлення», і публіка рушыла следам за героем дня. На нейкі момант, дзякуючы моцным галасавым звязкам, Жырыноўскаму ўдалося перакрычаць натоўп і завалодаць яго ўвагай. Уладзімір Вольфавіч супакойваў: маўляў, не трэба насілля, нельга дапусціць крыві, братазабойчай грамадзянскай вайны, давайце свабодна дыскутаваць... Але на ўсякі выпадак вырашыў і напалохаць — у яго памочніка, маўляў, ёсць нейкі «снарадзік», які можа разнесці ўшчэнт паў-Мінска...

Аратара акружылі прыхільнікі. А іх, як выявілася, было не так і мала. Нехта ў афіцэрскай форме крыкнуў: «Да здравствует единая и неделимая Россия!» З усіх бакоў Жырыноўскаму працягвалі брашуры з праграмай ЛДП і «Юридическую газету» з партрэтам правадыра ліберальных дэмакратаў. Уладзімір Вольфавіч шчодра раздаваў аўтографы. У гэты момант яму маглі б пазайздросціць многія «зоркі» эстрады.

Але ў рэшце рэшт «зорцы» давялося ўсё ж хавацца ў холе гасцініцы «Юбілейная» — настолькі распаліліся страсці. Дзякаваць Богу, абышлося без ахвяр.

Лідэр ЛДП выказаў крыўду на менчукоў за такі прыём. Праўда, у яго няма падстаў крыўдаваць на наша мясцовае начальства. Па-першае, дзякуючы прадастаўленаму мікрафону ў праграме БТ «Крок», Жырыноўскі змог данесці свае блюзнерскія ідэі да шматмільённай аўдыторыі Беларусі. Яго ўбачылі, запомнілі — і гэта галоўнае! Па-другое, у атмасферы палітычнага скандалу, правакацыі Жырыноўскі адчувае сябе, як рыба ў вадзе, гэта яго родная стыхія. Па-трэцяе, у яго ёсць паслядоўнікі. У Мінску створана рэгіянальная арганізацыя Ліберальна - дэмакратычнай партыі, якая падала заяўку на рэгістрацыю. Дарэчы, яе актывісты ў той вечар бойка гандлявалі на лесвіцы Палаца спорту партыйнымі брашурамі і «Юридической газетой».

Вольна ці мімвольна, Мінскі гарвыканкам аказаўся ўцягнутым у палітычную правакацыю. Няўжо нельга было прадбачыць тое, што адбылося? І яшчэ: якіх цяпер гасцей чакаць нам у Мінску? Саратніка Жырыноўскага па партыі Петрушэнку? Алксніса? Няўзорава?

«Сколько их! Куда их гонят?»

**Віталь ТАРАС.**

ходна нашым пакутнікам. «Мы падпарадкоўваемся Мінздраву Саюза і не маем самастойнага юрыдычнага права заключаць дамовы і кантракты»,— нібы адказала на мае разважанні кіраўнік групы, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута радыяцыйнай медыцыны Т. Маслоўская. Як высветлілася, вялікая колькасць навуковых устаноў (Обнінск, Чарнагалоўка, іншыя інстытуты) спецыялізуецца па Чарнобылі, а мы ў рэспубліцы амаль нічога не маем! Мы, як жабракі, ходзім і просім.

Але гэта не сорам, калі просіш дзеля дзяцей, дзеля хворых. Сорам — гэтых хворых абкрадаць. Тут, у Амерыцы, пакуль што чатыры жанчыны-доктаркі з Беларусі. Пытаюся ў прафесара Астахавай пра мэту іхняга прыезду.

— Якая мэта?.. Наша мэта не адна. Іх шмат. А вось якая ажыццявіцца, цяжка сказаць. Мы падрыхтавалі сумесную беларуска-амерыканскую праграму на дзяржаўным узроўні. Тэма гэтай праграмы —«Вынікі радыяцыі на шчытападобнай залозе». Пакуль што гэта толькі праект, і яго будзе разглядаць амерыканскі ўрад. Гэта першае. Другое. Наша мэта тут — зрабіць калідор, па якім сюды «пойдуць» спецыялісты з Беларусі, і, найгалоўнае, — зацікавіць грамадства і прыцягнуць увагу амерыканцаў да праблем Беларусі...

— Чаму мы запрасілі дактароў з Беларусі?— гаворыць амерыканскі доктар А. Рабінсон, дырэктар «Continuon aducation».—Таму, што даведаліся пра Беларусь і яе чарнобыльскія праблемы. Я вырашыў іх запрасіць, каб неяк дапамагчы...

— Ад каго вы даведаліся пра нашы праблемы? — цікаўлюся.

— Ад доктара Марыі Дзямковіч. Гэта яна прыходзіць да нас і ўсё расказвае пра Беларусь, пра хворых дзяцей, пра цяжкасці з лекамі. Гэта яна прывяла да мяне доктара Ніку Грэс і памочніка міністра замежных спраў У. Шчаснага. Яны і падпісалі дамову з намі, каб мы запрасілі вашых лекараў і паказалі ім, як мы працуем, бо вопыт з радыяцыйнымі хворымі ў нас займеўся, калі ў штаце Невада і ў штаце Юта былі выпрабаванні атамнай бомбы.

— Як рэальна вы можаце дапамагчы?— пытаюся я ў доктара Рабінсона.

— Патрэбна камбінацыя навукоўцаў, клініцыстаў і дзяржавы. Гэты сумесны кааператыў дасць магчымасць зрабіць вялікую карысць для хворых, — адказаў той.

Доктар Марыя Дзямковіч (пра яе ўжо казалася ў «ЛіМе») сядзела са мной у доктара Рабінсона і выцірала слёзы... Дзякуючы ёй Беларусь атрымала медыкаментаў больш як на 100 тысяч долараў. Яна іх слала праз Беларускае прадстаўніцтва ў ААН, праз Народны фронт, праз Г. Грушавога і Ю. Панкраца, праз А. Бартуль, праз беларускіх дактароў і праз усіх, хто ехаў на Беларусь і пагаджаўся забраць з сабой «лішнюю вагу»...

«Ты ўратаваў мяне, Генадзь», — сказаў Васіль Быкаў прадстаўніку Беларусі ў ААН Генадзю Бураўкіну, які прывёз яму вельмі патрэбныя і вельмі дзеючыя лекі з Амерыкі. Але, можа, спадар Васіль Быкаў і не ведае, што гэтыя лекі Г. Бураўкін атрымаў ад доктара Марыі Дзямковіч... Дзякуючы ёй, у Амерыку былі запрошаны беларускія дактары (якія, дарэчы, і запыніліся ў яе, і калі яны будуць мець нагоду прачытаць гэты артыкул, то, спадзяюся, адгукнуцца...)

Думаецца мне, калі б кожны беларус ці беларуска зрабілі па сваіх магчымасцях і нешта ахвяравалі — можа, інакш і бяда павярнулася б.

У Амерыцы таксама шмат хворых дзяцей. А медыцына шалёна дарагая (напрыклад, адзін дзень аднаму хвораму знаходжанне ў Кліўленд-клінік каштуе 600 долараў!). І вось, каб дапамагчы каму-небудзь, хто не мае такіх грошай, але патрабуе медычнай дапамогі, настаўнікі альбо святары, альбо яшчэ хто-небудзь, для каго гэта неабыякава, па тэлебачанні ці радыё, праз газеты звяртаюцца да ўсіх Злучаных Штатаў, да ўсёй краіны, і — просяць дапамогі! Жабрацтва — гэта не сорам. Можа, і нам, калі кожны са свайго сціплага бюджэту выдзеліць якія-колечы грошы на патрэбы гэтыя, ды нейкіх спонсараў пашукаць (ёсць жа ў нас і МАЗ і трактарны завод), паспрабаваць накіраваць усе магчымасці на адно ліха?

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ.**
Кліўленд—Менск.

Аўтарка просіць пералічыць ганарар на рахунак Цэнтра трансплантацыі костнага мозга № 100609511.

## Будынак ВДНГ — нацыянальнай мастацкай галерэі

### Адкрыты ліст Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. КЕБІЧУ

Ва ўмовах новай беларускай дзяржаўнасці і атрымання суверэнітэту з усёй вастрынёй паўстае пытанне аб стварэнні нацыянальнай беларускай галерэі. Яе адсутнасць цяжка сказваецца на сучасным стане беларускага мастацтва. Яго лепшыя здабыткі распыльваюцца не толькі па іншых рэспубліках і гарадах, але назаўсёды адыходзяць на Захад, нікім не бачаныя і не зафіксаваныя. Творы сучасных мастакоў гінуць у дрэнна прыстасаваных, выпадковых памяшканнях, якія адведзены пад іх захоўванне. Няма добра наладжаных і адпрацаваных культурных сувязяў.

Такая карціна нагадвае нацыянальны духоўны генацыд. Нацыянальная галерэя павінна прынцыпова змяніць становішча. Ні Беларускі дзяржаўны музей, ні Рэспубліканская мастацкая галерэя не ў стане выканаць гэтую адказную ролю. У музеі наогул неверагодная сітуацыя. Па сваёй сутнасці ён павінен быць галоўным сховішчам беларускага мастацтва. А на самай справе тут ёсць толькі аддзел, які прысвечаны беларускай культуры.

Рэспубліканскі Палац мастацтваў належыць Саюзу мастакоў Беларусі і таму з'яўляецца ўстановай ведамаснай. А гэта заўсёды нясе магчымасць перавагі асобных групоўкі, якая, як ужо не раз здаралася, будзе суб'ектыўна і выпадкова адбіраць і ацэньваць нашы нацыянальна культурныя здабыткі. Тым больш, што захаванне твораў у Палацы мастацтваў належным чынам не забяспечана.

З нагоды вастрэйшай неабходнасці ў змене культурнай сітуацыі ў Беларусі просім адвесці для стварэння Нацыянальнай мастацкай галерэі будынак ВДНГ, які, на нашу думку, найбольш прыстасаваны для гэтай важнай справы, і перадаць яго ў маёмасць Міністэрства культуры. Тут, як нідзе, існуюць усе ўмовы для стварэння і размяшчэння ўсіх структур Нацыянальнай галерэі: Музея нацыянальнага мастацтва з пастаянна дзеючай экспазіцыяй, залы для правядзення зменных выстаў. Ёсць добрыя ўмовы для захавання вялікай колькасці твораў. Участак ля ВДНГ дае магчымасць развіць падсобныя структуры галерэі.

Будынак ВДНГ і прылягаючая прастора дасць магчымасць стварыць нацыянальную галерэю беларускага мастацтва на еўрапейскім узроўні.

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь С. ДАВІДОВІЧ, А. ТРУСАЎ, В. МАЛАШКА, І. ГЕРМЯНЧУК, Л. ЗДАНЕВІЧ, А. ЛЯБЕДЗЬКА, П. ШКАПІЧ і іншыя—усяго 36 подпісаў.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

## «Пра біржы — па-беларуску? Не поймут-с...»

Беларускае радыё, якое дагэтуль дбала пра сваё моўнае аблічча больш, чым тэлебачанне, з нядаўняга часу дзівіць пэўным феноменам. Пасярод або пасля беларускамоўнае перадачы — выпуску навінаў, музычнай, літаратурнай праграмы — кароткая абвестка:

— Паслухайце рэкламу. Па просьбе заказчыка яна гучыць на рускай мове.

І гучыць. На рускай мове. І быццам так і трэба, і быццам прабачальная рэпліка дыктара здымае пытанні да кіраўніцтва радыё. Але пытанні належыць усё ж задаць.

Пытанне першае. Ці значыць усё гэта, што калі «заказчык» заплаціць, дык абвестка прагучыць на мовах суахілі, табасаранскай і мяо? Роўнасць дык роўнасць?

Пытанне другое. Як збіраецца выконваць кіраўніцтва радыё Закон аб мовах, калі моваў афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, паводле закона, з'яўляецца беларуская.

Пытанне трэцяе. Чым кіраўніцтва радыё растлумачыць, што па французскім радыё не гучыць рэклама на англійскай мове, і гэта пры тым, што большасць французаў англійскую ведае і пашырана яна ў свеце больш?

На апошняе пытанне дапамагу спадарам адказаць. Не гучыць па літоўскім радыё расейская ці англійская рэклама, няма ў агульнадзяржаўных праграмах польскага радыё японскай рэкламы, украінская, а не іншая мова чуваць у рэкламных устаўках Кіеўскага радыё з аднае і тае прычыны. Ва ўсіх названых краінах разумеюць, якую ролю адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі ў захаванні культуры і прэстыжу нацыянальнае мовы.

І людзі бізнесу ўспрымаюць гэта як зразумелую рэч. І ў нас бы ўспрымалі беларускамоўнасць Беларускага радыё як аксіёму, каб не пайшло кіраўніцтва радыё ў пагоні за доўгім драўляным рублём на саступкі.

Усё сказанае датычыцца і тэлебачання.

Рэкламу на радыё, на ТБ — самыя масавыя сродкі дастаўкі інфармацыі — неслі, нясуць і будуць несці, і будуць плаціць за яе размяшчэнне добрыя грошы. І ў гэтай сітуацыі не бізнесмены павінны дыктаваць тэлебачанню і радыё ўмовы, а наадварот. Умова sine qua non — беларускамоўнасць. Тады і ў галаву нікому не прыйдзе, што можа быць інакш. Калі ж кіраўніцтва Беларускага тэлебачання і радыё мае іншыя думкі — трэба нешта мяняць. Або думкі, або кіраўніцтва.

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

# «ПАГОНЯ» — дзяржаўны герб

Пасля публікацыі ў «ЛіМе» за 22 лістапада праекта эталона дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь у рэдакцыю пачалі прыходзіць лісты чытачоў з меркаваннямі, заўвагамі, прапановамі. І хоць надрукаваная выява ўяўляла сабою толькі праект, праца над якім на той час працягвалася (менавіта ў якасці рабочага варыянта ён і быў ухвалены экспертамі) і які нельга ацэньваць як закончаны твор—а менавіта так яго ўспрынялі некаторыя чытачы,—пэўныя заўвагі могуць дапамагчы мастакам у далейшым.



Графічныя эталоны Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.



Так, менавіта ў далейшым. Хоць Вярхоўны Савет і зацвердзіў нядаўна эталон герба, але мне падаецца, што ён будзе дапрацоўвацца і далей. Зацверджаны эталон прынцыпова нічым не адрозніваецца ад выявы, што была надрукавана ў «ЛіМе» —адно што сталі больш сумаштабнымі выявы каня і вершніка і больш дакладнай прарысоўка асобных дэталяў.

Што найперш падалося нашым чытачам спрэчным, што недаспадобы? Тое, што выява недастаткова дынамічная. У лістах цытуецца Багдановічава «Пагоня», дзе дынаміка паэтычнага радка стварае вобраз імклівага руху, які «не разбіць, не спыніць, не стрымаць». Але ж герб—гэта не жывапіснае палатно і не кніжная ілюстрацыя. Геральдыка мае свае законы. Згодна аднаму з іх, рух у гербавых выявах перадаецца ўмоўна. Гэта звязана з тым, што герб — статычная выяўленчая структура, кожнаму элементу якой (гербаваму шчыту, шчытатрымальнікам, гербаваму дэвізу, навершу—звычайна ў выглядзе кароны...) здаўна вызначана месца. Хай сабе вершніка Пагоні «не спыніць, не стрымаць», але выява павінна «сесці» ў гербавы шчыт і нават вонкава не вытыркацца за яго межы. Таму нельга падыходзіць да выявы вершніка на гербазым шчыце з такімі ж крытэрыямі, як да коннага помніка на пляцы.

Пагартайце энцыклапедыі, паглядзіце на гербы еўрапейскіх краін (за кожным—не адно стагоддзе), і вы не знойдзеце ніводнага «дынамічнага» герба. Распраўленыя крылы арла могуць сімвалізаваць палёт, выпушчаныя кіпцюры льва — імклівую атаку, рука з аголеным мячом — бітву. І ніякага натуралізму.

Гэта правіла ўмоўнасці выявы ігнаруецца маладымі дзяржавамі Азіі ды Афрыкі. Кракадзіл на гербе Лесота таго і глядзі саскочыць з карцінкі і ўкусіць гледача; вершнік на гербе Манголіі імчыцца па шырокім стэпе, і межы герба яму відавочна цесныя.

Але ж наша дзяржава нарадзілася не ўчора. Ёй тысяча год, і, адпаведна, нам больш падыходзіць герб, выкананы ў традыцыях еўрапейскай геральдыкі. У адрозненні ад ільва ці арла конь — нераспрацаваная геральдычная фігура. Геральдычны арол ці леў мала падобныя на сапраўдных. Яны нешта сярэдняе паміж рэальным і казачным зверам. Між тым як выявы коней на гербах Венесуэлы, Уругвая, Нігерыі, Манголіі, колішняй Верхняй Вольты, зебраў на гербе Батсваны нагадваюць малюнкі падручніка па заалогіі. А вершніка на гербе, акрамя Беларусі, мае толькі Летува і Манголія. Цікава, што летувісы, прыняўшы напачатку ў якасці афіцыйнага сімвала сваёй адроджанай дзяржавы герб даваеннай Летувіскай Рэспублікі, сёння распрацавалі новы герб. Бо той, стары, гэта якраз няўдалая спроба ўціснуць дынамічную выяву вершніка ў статычную форму гербавага шчыта.

Ёсць у лістах прэтэнзіі да ўзбраення рыцара. Чаму шлем без султана з пёраў? Відаць, каб падкрэсліць старажытнасць герба. Рыцар на праекце эталона герба ў даспехах гатычнага тыпу, а султаны на шлемах распаўсюдзіліся ў часы барока. Тое ж датычыць і шпораў. Шпоры ў выглядзе шыпа былі раней за шпоры з маленькім рухомым колцам на канцы. І зноў напомню, што герб—гэта не ілюстрацыя ў падручніку, дзе ўсё павінна быць, як у жыцці. Мастак дзеля выразнасці можа дазволіць сабе і пэўную «недакладнасць». Ён малюе сімвал. Геральдычны вобраз у чымсьці блізкі вобразу казачнаму, хоць і мае над сабою стагоддзі задакументаванай гісторыі.

Шэраг чытачоў выказваюць сваю нязгоду з характарам малюнка крыжа на шчыце рыцара. Маўляў, гэты крыж мае «праваслаўны» выгляд. Але ж падобныя крыжы на гербе каталіцкіх Венгрыі і Славакіі, ён таксама папулярны ў Францыі. Я думаю, такі крыж прымуць як свой і каталік, і праваслаўны, і нават язычнік.

Нашы чытачы таксама выказваюць думку, што герб павінен быць завершаны вялікакняскай каронай нашай старажытнай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага. Думка слушная, але трэба ўлічваць псіхалогію тых, хто са скрыпам у сэрцы галасаваў за наданне Пагоні статуса дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Каб яны, выхаваныя на камуністычных міфах, зацвердзілі герб з каронай?! Гэта можа зрабіць толькі новы парламент РБ.

Дзяржаўны герб можа, згодна традыцыі, быць малым ці вялікім. Скажам, малы герб Латвіі ўяўляе сабою гербавы шчыт з выявамі геральдычных звяроў і ўзыходзячага сонца. Вялікі герб—той жа шчыт, а з бакоў яго падтрымліваюць шчытатрымальнікі, а ўнізе—гербавы дэвіз на стужцы. Савецкі Саюз меў вялікі герб (той, што на пашпартах і міліцэйскіх машынах), а ролю малога герба выконваў элемент вялікага герба—серп-молат. Малы герб Швецыі—тры залатыя кароны на сінім тле шчыта, вялікі герб—кампазіцыя са шчытатрымальнікамі, размешчаная на фоне каралеўскай мантыі, завершаная каронаю. Тры гербы, малы, вялікі і як прамежкавы варыянт—сярэдні, мела даваенная Чэхаславакія.

Тое, што зараз Вярхоўны Савет зацвердзіў як афіцыйны сімвал Рэспублікі Беларусь, з цягам часу, можа, будзе лічыцца малым гербам. Зразумела, калі будзе распрацаваны вялікі. Магчыма, элементамі вялікага герба будуць шчытатрымальнікі-грыфоны (як на Вострай



Узор наверша Дзяржаўнага сцяга РБ.

Браме). Магчыма, герб будзе дапоўнены каронай Вялікага княства Літоўскага. Магчыма, пойдзем іншым шляхам, возмем за аснову дзяржаўны герб Беларускай Народнай Рэспублікі — там Пагоня была ў атачэнні зямельных гербаў. Гэта справа будучыні. А пакуль можна нарэшце афіцыйна развітацца з БССРаўскім гербам.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

Р. S. У нататках скарыстаны лісты Г. Тарасевіча з Гародні, П. Палякова з Магілёва, менчукоў С. Цярохіна, В. Занежанкова, А. Каўшэвіча, В. Казака і іншых спадароў.

**П. В.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# АБ СТАРАЖЫТНАЙ «ЛІТВЕ»

Жыццё паказвае, што пазбаўлены незалежнасці народ пазбаўляецца і магчымасці мець сваю праўдзівую гісторыю. Яна пападае пад уплыў пераможцаў, і ад сумленнасці апошніх залежыць яе праўдзівасць і лёс. На жаль, нашы «апекуны» сумленнасцю ніколі не вызначаліся. Таму ўжо некалькі стагоддзяў гісторыя беларускага народа бесцырымонна «прарэджвалася» і фальсіфікавалася чужымі рукамі, дапасоўвалася да жадання ўладных суседзяў. І многае цяпер аднавіць няпроста, бо ў працэсе фальсіфікацыі знішчаліся дакументы і сведчанні. Аднаўленне гістарычнай праўдзівасці—гэта вяртанне народа да сваёй нацыянальнай свядомасці, гонару, волі. Таму рабіць гэта трэба.

Шкада, што па-ранейшаму мы так і не можам дабіцца выдання свайго папулярнага гісторыка-краязнаўчага часопіса, які б будзіў нацыянальную свядомасць, любоў і пашану да багатай гістарычнай спадчыны народа нашага, яго цікавага і павучальнага мінулага. Тое, што выходзіць, што з такой цяжкасцю выбіта ў камандных структур, не можа задаволіць прагу народа да пазнання сябе, сваёй гісторыі, сваіх вытокаў.

Пры адсутнасці дакументаў і іншых гістарычных крыніц, якія канкрэтна асвятлялі б падзеі мінулага, важнымі з'яўляюцца публікацыі навукова-тэарэтычных распрацовак з выкарыстаннем ускосных сведчанняў і лагічных высноў.

Многіх, напрыклад, хвалюе і цікавіць пытанне, чаму ў нашай гісторыі на працягу шэрагу стагоддзяў прысутнічала назва «Літва», «літвіны». Амаль да пачатку XX стагоддзя частка беларусаў называла сябе літвінамі, аб гэтым сведчаць і выказванні А. Міцкевіча, К. Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча і іншых вядомых дзеячаў. У асобных мясцінах Палесся і цяпер паўночна-заходнія тэрыторыі Беларусі называюць Літвой. Яшчэ нядаўна і Брэст называўся Літоўскім (Брэст-Літоўск). Усё гэта будзіць цікавасць яшчэ і таму, што з паняццем Літва цяпер асацыіруецца тэрыторыя суседняга нам неславянскага народа, хоць вядома, што ні Брэст, ні заходняя частка Беларусі балцкімі не лічыліся.

Пад уплывам шырокавядомай гіпотэзы, якая сцвярджае, што да каланізацыі славянамі недзе ў VI—VIII стагоддзях нашай эры большасці тэрыторыі сучаснай Беларусі тут жылі плямёны балтаў—продкаў сучасных літоўцаў і латышоў,—у друку з'яўляюцца публікацыі, у якіх робіцца спроба растлумачыць паходжанне назвы «Літва». Адны лічаць, што ўспрынята яна ад назвы балцкага племені, якое ў пачатку II тысячагоддзя н. э. размяшчалася недзе паміж сучаснымі гарадамі Слонім, Наваградак, Менск, Маладэчна (Мікола Ермаловіч. Старажытная Беларусь), другія—што назва гэта, як і яе носьбіт, фіна-ўгорскага паходжання. Пры гэтым прыводзяцца і беларускія гідронімы, у якіх прысутнічае фіна-ўгорскае гучанне (І. Ласкоў, «ЛіМ», 18.08. 1989, і С. Клімковіч, «ЛіМ», 26.04.1991).

Не аналізуючы згаданых меркаванняў і не выказваючы крытычных заўваг, аўтар гэтых радкоў лічыць правамерным выказаць і свой погляд на закранутае пытанне. На аснове аналізаў і супастаўленняў старажытных пісьмовых крыніц, археалагічных сведчанняў і тапанімічных рэалій, улічваючы працы некаторых вучоных па праблемах славяна-балцкіх узаемаадносін, можна меркаваць, што прыблізна да IV стагоддзя нашай эры ў сучаснай Прыбалтыцы і на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі балтаў яшчэ не было. Тут жылі славянскія і фінскія плямёны. Плямёны ж балтаў засялялі міжрэчча верхняга Дняпра і Волгі (меркаванні К. Бугі, М. Фасмера і інш.). А ў IV стагоддзі пад уздзеяннем невядомай (пакуль што) пагрозы з усходу (магчыма, пад націскам нейкіх азіяцкіх народаў) плямёны балтаў вымушаны былі зняцца з абжытых мясцін і адкатвацца на захад, на тэрыторыі, заселеныя суседнімі славянамі. Гэты шматлікі этнічны паток па інерцыі рухаўся да той пары, пакуль не ўткнуўся ў марскую перашкоду—Венедскі заліў, пазней названы Балтыйскім морам. Перасоўваючыся пераважна ў міжрэччы Заходняй Дзвіны і Нёмана (Гуда) і затым абгінаючы перашкоду з поўдня, балты паступова расцякаліся на суседнія славянскія і фінскія тэрыторыі, часткова выціскаючы абарыгенаў, змешваючыся з імі, утвараючы невялікія калоніі і асобныя селішчы. Такім чынам узнікала шырокая зона са змешаным насельніцтвам. І чым далей ад эпіцэнтра расцякалася гэтая балцкая каланізацыя, тым меншы след пакідала яна на этнічным складзе і жыцці мясцовага насельніцтва.

Трэба думаць, што такая гвалтоўная і неспадзеўная экспансія агромністых і чужародных этнічных мас не магла не выклікаць рэакцыю ў славянскім асяроддзі. Што, магчыма, і было штуршком, прывёўшым у дзеянне частку плямёнаў, якія накіраваліся за Карпаты, а затым і за Дунай. Прынамсі, у басейне левых прытокаў Нёмана гэты перыяд адзначаны паяўленнем мноства так званых гарадзішчаў-сховішчаў і новых паселішчаў.

Парушаючы векавыя традыцыі і этнічную стабільнасць, гэты бурны гістарычны працэс не толькі перафармаваў сітуацыю на значнай тэрыторыі, але і сцёр ранейшыя плямённыя аб'яднанні і сувязі. Зніклі існаваўшыя старажытныя назвы плямёнаў. Летапісы і хронікі ўжо не называюць іх.

Новыя фармаванні з удзелам рознаэтнічнага насельніцтва былі ўжо расплывістыя, агульныя. І адной з такіх расплывістых назваў, узнікшых у новай сітуацыі, быў тэрмін «Літва». Узнікнуць гэты тэрмін мог у славянскім асяроддзі недзе ў VI—VII стагоддзях, калі славяна-балцкія этнічныя і культурныя адносіны «зліліся», утварылася новая супольнасць з магчымым двухмоўем. Гэта была тая шырокая зона кантактаў між славянамі і балтамі, якая не магла вызначацца нейкімі старымі назвамі, цяпер ужо не адпавядаючымі рэальнасці, узнікла патрэба ў новай назве.

Тэрмін «Літва» мог паходзіць ад славянскага слова «зліваць», «зліцца» ў сэнсе аб'яднацца і падкрэсліваў гістарычную сітуацыю, якая ўтварылася на значнай тэрыторыі славяна-балцкага парубежжа. Тэрыторыя так званай Літвы не мела акрэсленых межаў, ускраіны яе размываліся залежна ад ацэнкі суседзяў і часу (асіміляцыйных працэсаў). Вось чаму на тэрыторыю той старажытнай Літвы, на палітычны ўплыў прэтэндавалі як славяне, так і балты. І працэс гэты, прычыняючы немалыя знішчэнні і беды насельніцтву, працягваўся да той пары, пакуль перад насельніцтвам асобных гарадоў і зямель не ўзнікла неабходнасць аб'яднацца ў адзіным Вялікім княстве Літоўскім, а пазней, калі межы княства расшырыліся за лік чыста славянскіх (беларускіх) і балцкіх тэрыторый, назва была дапоўнена і гучала як Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

Такім чынам, гістарычная Літва і яе насельнікі—«літвіны»—гэта зусім не сучасная Летува і летувісы, а скарэй—гэта продкі так званых чарнарусаў. І на тэрыторыі гістарычна вядомай Чорнай Русі, якую дакументы сярэднявечча лакалізуюць прыблізна паміж гарадамі Слонім, Ваўкавыск, Гродна, Наваградак і, верагодна, Вільня (ці Маладэчна), і бытаваў тэрмін «літвіны».

Безумоўна, закранутая тэма патрабуе грунтоўнага даследавання, але ясна, што старадаўняя Літва і літвіны—гэта не балты.

Калі разглядаць дадзенае пытанне менавіта з такіх пазіцый, то многае ў гісторыі народаў Беларусі і Летувы знаходзіць канкрэтнае тлумачэнне.

**Васіль СУПРУН.**

г. Слонім.

## КНІГАПІС

Уладзімір Верамейчык
ЖЫВУ ШКОЛАЮ

У. ВЕРАМЕЙЧЫК. Жыву школаю. Нарысы, інтэрв'ю, публіцыстыка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Паэт Уладзімір Верамейчык працуе дырэктарам школы. У кнізе публіцыстыкі «Жыву школаю» ён дзеліцца ўражаннямі аб выхаванні падрастаючага пакалення, скіроўвае ўвагу на сувязі педагагічнага працэсу з жыццём. Не абмінае аўтар і пытанняў нацыянальнага Адраджэння.**




М. ГАМОЛКА. Дзяўчына ішла па вайне. Аповесці. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1991.

**Акрамя аднайменнага твора, у кнігу ўвайшла і аповесць «Сокалы-сакаляты», перакладзеныя на рускую мову Т. Смалянскай, у якой расказваецца пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на тэрыторыі нашай рэспубліцы і Смаленскай вобласці. Пра жыццёвы і творчы шлях М. Гамолкі расказвае ў пасляслоўі Наталля Андрыеўская.**




А. МАХНАЧ. Камандзір Усходняга форта. Дакументальная аповесць. Для старэйшага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1991.

**Удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці, пісьменнік Алесь Махнач расказвае аб мужнасці і стойкасці Героя Савецкага Саюза, камандзіра 44-га стралковага палка П. Гаўрылава, які кіраваў абаронай Усходняга форта.**



А. ШЛЕГ. Тайна Чорнага бору. Аповесць. Мінск, «Юнацтва», 1991.

**У аповесці Алеся Шлега «Тайна Чорнага бору» прыгодніцкі пачатак, але гэта не перашкаджае пісьменніку праўдзіва расказаць аб падзеях, удзельнікамі якіх з'яўляюцца і юныя героі.**

# Анкета «ЛіМа»

**У лімаўскай анкеце, распачатай 15 лістапада г.г., узялі ўдзел пісьменнікі Л. Галубовіч, К. Шэрман, І. Чарота, Л. Арабей, А. Федарэнка, Г. Тычка, А. Лойка, У. Рубанаў, А. Асташонак, Д. Бугаёў. Сёння друкуем адказы П. Місько і Я. Гарадніцкага.**

**1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней—як бы па інерцыі?**

**2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой ценой»?**

**3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?**

**Павел МІСЬКО**

## НЕ МІТУСІЦЦА!

На зары перабудовы, сербануўшы паветра з большай дозай кіслароду, некаторыя маладыя літаратары зусім ахмялелі: закружылася галава, у хадзе-пісьме яшчэ больш з'явілася шаткасці-валкасці (грунт пад нагамі, дзе ты, ау-у!), хісталіся пад кожным, нават слабым павевам, але не забывалі гальмакаваць: «Во якія мы смелыя! Во якія перадавыя! Во якія таленавітыя!» Ім на падмогу кінуліся маладыя крытыкі, пачалі апраўдваць усе выхілясы ў іх творчасці, а сякія-такія набыткі выдаваць за самае-самае, за прыкметы новага стылю, новага мастацтва, спароджанага перабудовай усяго ладу жыцця. Больш за тое: даказвалі нават, што толькі вось гэтак і трэба пісаць цяпер, а ўсе, хто пісаў дасюль «у добрых старых» традыцыях рэалізму і гэтак жа сама піша сёння, не збіраючыся, «задрав штаны бежать за комсомолом», такія ледзь не рэтраграды. На іх шчодра вешалі ярлыкі сацрэалістаў, памагатых партакратыі і г. д.

Спрадвечны канфлікт «бацькоў і дзяцей»? Не толькі і не столькі...

Безумоўна, сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення было нямала такіх, што навыперадкі стараліся крыкнуць «Будзьце здаровы!» на кожны цэкоўскі - кампартаўскі чых. Бясспрэчна, што ў пагоні за прэміямі было напісана нямала кніг, якія або ўжо канулі ў Лету, або працягваюць пускаць бурбалкі, не вытрымліваючы выпрабавання часам. Але ж нельга не бачыць і таго, як многія са старэйшых пісьменнікаў дыхтоўна рабілі раней, сумленна працягваюць рабіць і цяпер святую, наканаваную Богам справу: аруць, абрабляюць літаратурную ніву, уздзіраюць аблогі, карчуюць ляда — хоць і наступіла «міжчассе», хоць няўхільна насоўваецца рынак з яго антыгуманістычнымі праявамі і жорсткімі законамі. Дык што, лічыць іх дзівакамі і глуміцца над імі? Маўляў, не купляюць камп'ютэры, не каструюць з іх дапамогаю заліхвацкія варыянты сюжэтаў, а пішуць старасвецкім стылем звычайнымі аўтаручкамі або алоўкамі, «шарыкамі», ці нават так, як В. Адамчык,—даўнейшым школьным пяром «88», раз за разам мачаючы ў чарніліцу-невылівашку, выгадваючы на гэтым працэсе лішнія хвіліны для роздуму над чарговай спіраллю гісторыі «служенье муз не терпит суеты».

Так, раздумваць ёсць пра што: колькі каштоўных, незваротных хвілін згублена, зглумлена ў бяздзейнасці, а то і ўтоплена ў чарцы! Колькі яшчэ не зроблена ў беларускай літаратуры! Колькі трэба зрабіць, навярстаць і за стагоддзі мінулага бясчасся, і спляжаныя семдзесят чатыры савецкія гады, і міжчассе сённяшніх няпэўных дзён! А гэтак жа мала здароўя засталося, так няўхільна радзеюць рады працаўнікоў у літаратуры, і так да крыўднага мала сур'ёзных, працавітых, самаадданых, каб папаўняць іх шэрагі! І як жа горка, што з'явілася нямала тых, што забылі пра ўсё высокае, пра Беларускую Літаратуру, і кінуліся «мэйк мані» ўсякімі літпадробкамі і іншымі магчымымі і немагчымымі спосабамі — «грошы не пахнуць!» Каб жа, каб жа... Ад іх ідзе такое благое «вони», «амбрэ», што хоць нос затыкай. Ды яшчэ разлятаюцца міязмы заразы, калечацца душы, збіваюцца з панталыку зусім юныя таленты, што ідуць у літаратуру са святым трапятаннем. Падумаюць, што вось такія тарбахваты і ёсць сапраўдныя пісьменнікі, і пісаць трэба пра тое і гэтак, як яны, і што ўвогуле пісьменнікі — усе! — грабуць грошы лапатаю, і «ў пісьменнікі» толькі з-за гэтага і трэба ісці.

Колісь я перакладаў аповесць У. Цендракова «Ноч пасля выпуску». Дык вось, быў там такі дзесяцікласнік-выпускнік Ігар Праухаў, мастак-пачатковец. Ён хадзіў пісаць эцюды ў адных і тых жа штанах і заўсёды выціраў пэндзлікі і мастыхін аб..., прабачайце, аб гэтыя самыя штаны, ад чаго яны цвілі «самымі неверагоднымі фарбамі». Ігар, паляпваючы па адпаведным месцы, называў сваю адзежу няйначай, як «Мой поп-арт!» Адносіны Ігара да так званага «поп-арта», да масавай культуры я цалкам падзяляю. І гэтак жа сама адношуся да спроб стварэння беларускай масавай культуры. Калі і здабудуць некаторыя так званыя пісьменнікі на гэтай сцежцы не толькі грошы, але і славу, то будзе іх слава тымчасовая, як мыльная бурбалка. І хто надта здзіўлена і захоплена будзе лупіць вочы на гэтую бурбалку, атрымае тое самае, што я ў дзяцінстве: порцыю едкіх, да слёз, пырскаў у самыя зрэнкі. У «поп-масавікоў-зацейнікаў» ад Месіі, ад будзіцеляў няма ні грама (ці ні грана?). Як і ў наваспечаных выдаўцоў-кааператараў, прадпрымальнікаў з пароды прагавіта-грашавітых жучкоў, што кінуліся ў заробкі, выдаючы на рускай мове не толькі дэтэктывы і фантастыку (я нічога не маю супраць таленавітых твораў гэтага жанру), але і ўсякую непатрэбшчыну, хлуд, бульваршчыну і парнаграфію, атручваючы чытача, забіваючы ў ім рэшткі нацыянальнай свядомасці. Мэйк мані! — і хоць трава не расці, хоць няхай праваліцца ў пекла беларуская кніга, беларуская літаратура, культура і сама Беларусь з яе незалежнасцю.

Некаторыя з дзялкоў-пісак ад літаратуры апраўдваюцца тым, што вось заробяць грошы, а тады ўжо спакойна засядуць, каб пісаць «разумнае, добрае, вечнае». Маўляў, усюды і заўсёды так было, і не толькі ў Еўропе.

Было, не спрачаюся. І ёсць, і, мабыць, будзе. Я ўспамінаю, як шмат гадоў назад у СП Беларусі адбылася сустрэча з югаслаўскімі пісьменнікамі. Расказвалі яны пра сваё жыццё-побыт, умовы работы. Так, было ў іх тады штосьці падобнае: каб выдаць добры зборнік вершаў, трэба было для пражыцця спачатку выдаць кнігу ці дзве дэтэктываў. Са школьных гадоў не забываецца Ня-

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

## «НА НОВЫ ЛАД, КАБ ЖЫЦЬ НАНОВА...»

1. Жывём у чаканні рынку. Маючы пра яго такое-сякое ўяўленне, але не ведаючы, у якіх канкрэтных праявах ён надыдзе.

Вядома, рынак — не базар. І не адно сістэма дачыненняў вытворцы і спажыўца. Гэта пэўны лад жыцця. Светапогляд.

Таму так няўтульна пачувацца нам сёння ў чаканні, на зломе эпохі, у «міжчассі». Вельмі шмат чаго давядзецца пераглядзець у сабе, сваім жыцці.

Гнятлівае пытанне турбуе і ў адносінах да літаратуры: а як жа з ёю будзе, ці выжыве ва ўмовах рынку наша і без таго кволая, з выкручанымі «сацрэалізмам» рукамі, літаратура? Шмат каго бянтэжыць нават згадка пра неабходнасць «прадавацца». Але ж і раней збыт быў, не ў стол жа (як аказалася, на жаль) пісалі.

«Я збыць тавар, пардон, ваш твор хачу»,— гаворыць дырэктар тэатра паэту ў славутым творы Гётэ. Паэт збянтэжаны такой прасталінейнасцю, пярэчыць яму. Творцу, які прызнае адно дыктат натхнення, звыкнуцца з такой думкай цяжка, няёмка. Аднак жа і паэт, і дырэктар тэатра, і камічны актор у «Фаўсце»— гэта, па сутнасці, адзін чалавек, які спрачаецца сам з сабою, выяўляючы тым самым розныя бакі творчага працэсу.

Можна, вядома, станавіцца ў позу абражанай годнасці. Але разумней, мабыць, прызнаць рэальны стан рэчаў: усе, хто мае дачыненне да літаратуры — ёю ці корміцца, ці падкармліваецца. Нават нашай, нерэнтабельнай.

Без дзяржаўных датацый на культуру, літаратуру, навуку не абысціся. Гэта патрэбна ўсвядоміць сёння адназначна. Як і тое, што мае аплачвацца толькі праўдзівая вартасць. Датацыі ні ў якім разе нельга ўспрымаць як падаянку, міласціну. А хутчэй як клопат грамадства пра свой лёс.

Сучасная літаратура (як і культура ў цэлым) страціла (ці амаль страціла) у сучасным грамадстве ролю прарока, павадыра, якую яна мела яшчэ на пачатку стагоддзя. Не толькі да Талстога звярталіся беларусы з запытаннем «як жыць». Новая беларуская літаратура сфарміравала цэлыя пакаленні. Таму і сёння трымаецца яшчэ цудам наш беларускі свет, прайшоўшы праз тыранію і таталітарызм.

Цяпер нам, збольшага ачунялым ад іх прыгнёту, трэба ўсвядоміць, што ж уяўляе сабой ідэалогія таталітарнасці. Гэтае імкненне да абсалюту, бясконцасці — у нікуды, у нішто. Хваравітае імкненне да уніфікацыі, аднастайнасці. Яшчэ ў трыццатыя гады адзін з архітэктурных начальнікаў-«летуценнікаў» марыў аб тым, як будзе знесены ў Менску верхні гістарычны горад і якая неаглядная «перспектыва» адкрыецца з гары. Мара яго амаль спраўдзілася. Як заключны акорд — паўстане на Цэнтральным пляцы «саркафаг», выродлівае збудаванне, якое можна хіба параўнаць з пазарэальнымі візіямі Сальвадора Далі ці Язэпа Драздовіча.

Літаратуры, мастацтву неабходна супроцьстаяць гэтай навале. У гэтым іх прызначэнне. «Бараніць гармонію», апроч іх, няма каму. Бараніць канкрэтнага, нацыянальнага чалавека ад чалавека ўвогуле, ад распаду, растварэння асобы ў бяссэнсавай плыні невызначальнасці.

Літаратура павінна весці за сабою. Але не так, як яна дагэтуль «вяла». Яна павінна звяртаць увагу чалавека на пошукі выйсця з духоўнай безнадзейнасці, з-пад аблады стандартызацыі, прагматызму заземленага існавання.

Вядома, на якую «літаратуру» цяпер найбольшы попыт. Вядома, у якім стане знаходзіцца наша «нехадавая» літаратура. Мае рацыю С. Кавалёў («Беларусь», 1991, № 3), калі асцерагае, каб дзяржаўныя датацыі не пайшлі на падтрымку пасрэднасці і шэрасці. (Не з усім у ягоным артыкуле можна ў аднолькавай ступені пагадзіцца. Чаму, да прыкладу, аўтар стварэнне масавай літаратуры на беларускай мове, да якога сам заклікае, загадзя лічыць «штучным»? Чаму свядомы беларус абавязкова павінен быць раўнадушны да масавай літаратуры?)

Тут у свае правы павінен уступаць рынак. Сапраўды, разумны рынак.

Як не трэба блытаць рыначныя дачыненні з «базарам», так не трэба блытаць і сапраўдную літаратуру са звычайным месніцтвам. Не дзеля «продажу», а дзеля ўратавання сябе і народа, усяго чалавецтва ад няпамяці і нябыту — такое павінна быць крэда пісьменніка. А што за кожную добрасумленную працу чалавек мае права разлічваць на пэўны дабрабыт, дык тут нічога «саромнага» няма, да разумення гэтага мы з такой натугаю ўрэшце прыходзім.

2. Для выжывання нацыі (і толькі разам з ёю — літаратуры) намаганні па стварэнні масавай літаратуры, масавай культуры дадуць не болей плёну, чым эксплуатацыя ўхвальных цяпер патрыятычнай, гістарычнай і іншых тэм.

Наша літаратура будзе пастаўлена ў роўныя ўмовы з іншымі тады, калі такое ж месца зойме беларуская мова, ці, як кажуць, «пашырыцца сфера яе ўжывання».

Тады знікнуць самі сабою многія супярэчнасці, цяпер невырашальныя. Не будзе засціць вочы колькасны падыход. Бо, напраўду, калі невялікае кола чытачоў, то як называць такую літаратуру — элітарнаю? Звыклыя да «велічных» маштабаў імперыі, мы і да роднай літаратуры падыходзім не як да нармальнай еўрапейскай літаратуры (хоць і прымарожанай «сацрэалізмам» і падпсутай утрыманствам). Мераем усё меркамі суперкультуры (якая ці з'яўляецца культурай у звыклым разуменні слова). «Мае вузкае, спецыфічнае кола чытачоў — дзеячаў і аматараў нацыяналь-

красаў з Панаевай, як яны стругалі раманы для шырокай публікі — для заробку. А колькі ў XIX стагоддзі было «майстроў» перапісваць, перайначваць, пераніцоўваць, дапісваць чужыя творы! Не абмінуў такі лёс «Яўгенія Анегіна», «Гора ад розуму», «Уваскрэсенне» і «Крэйцараву санату», «Мёртвыя душы» і безліч іншых шырокавядомых твораў (у тым жа радзе і «Энеіда навыварат») — абы каб прымазацца да чужое славы, лёгка зарабіць грошы. Дзе тыя падробшчыкі, хто іх памятае, акрамя літаратуразнаўцаў? А сапраўдная літаратура так і засталася сапраўднай, і ўвесь свет памятае імёны вялікіх працаўнікоў літаратуры.

Сур'ёзныя, таленавітыя кнігі пісаліся, пішуцца і будуць пісацца, як і раней, уседліва, не з наскоку, спакваля, цягавіта: «літаратуру робяць валы». Як і раней, часам у стол, бо ў эканамічным вэрхале, які апанаваў рэспубліку, раптам стала не хапаць ні сродкаў, ні паперы, ні паліграфічных магутнасцей для беларускай літаратуры (што вельмі папахвае простым сабатажам). Зайдзіце ў кнігарні, знайдзіце там хоць што-небудзь для дзяцей на беларускай мове — выкаціла, як пажарам. А на рускай ёсць! Наша падрастаючае пакаленне засталося безабаронным перад экспансіяй расійскіх выдавецтваў (і паперу ж знаходзяць!). А наш урад нічога не робіць, каб абагнацца ад іх, каб прыпыніўся русіфікатарскі разгул, каб ўратаваць юныя душы для беларускай Справы, каб запрацаваў Закон аб беларускай мове — дзяржаўнай мове рэспублікі.

Зараз ва ўмовах, якія стварыліся для беларускай літаратуры, марная справа весці размову пра «фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем», пра «свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы». Бо іначай усе гэтыя гавэнды будуць прыпахваць адарванасцю ад жыцця, эстэцтвам і снабізмам.

Здаецца, я зачапіў усе пункты анкеты.

---

най культуры»,— піша С. Кавалёў. На каго ж і арыентавана кожная літаратура, як не на аматараў?

Так, сучасная цывілізацыя прыкметна выбаўляецца з-пад уздзеяння традыцыйнай культуры, рухаецца ў напрамку да утылітарных эстэтычных (усё ж эстэтычных!) каштоўнасцей. Хоць я не раздзяляў бы так катастрафічна духоўнасць і інтэлектуалізм, як гэта робіць В. Акудовіч у артыкуле «Цывілізацыя» («Культура», № 2).

Гуманітарная тэрміналогія рухомая, строга не фіксаваная. Таму розны сэнс можна ўкладваць у словы «культура», «цывілізацыя». Мне думаецца, што культура і цывілізацыя ўсё ж сустракаюцца ў часе. Калі гаварыць пра беларускую культуру, беларускую літаратуру, то галоўная іхняя бяда ў тым, што яны як бы правісаюць у паветры, не абапіраючыся на трывалы падмурак цывілізацыі. Нам яшчэ трэба стварыць сваю цывілізацыю. Свой беларускі лад жыцця. Свой свет. Сваё быццё.

Пакуль мы жывём у сістэме навязаных каштоўнасцей (у пэўнай частцы навязаных добраахвотна), будуць скаваны нашы творчыя патэнцыі.

3. Я за багацце форм. Свая ці пазычаная, модная ці традыцыйная — не так істотна. Пра ўнутраны свет асобы можна меркаваць па знешнім выглядзе чалавека. Форма зрастаецца са зместам, уздзейнічае на яго, пераўтварае. Як і змест прачытваецца ў форме, праз форму.

Багаццем, шматстайнасцю форм, іхнім «плюралізмам» мы пакуль не можам пахваліцца. Вельмі вялікі быў гнёт. Спосаб існавання прадвызначае форму. Так, камбала, да прыкладу, пляскатая і вочы яе размешчаныя з аднаго боку, глядзяць у адным напрамку

---

ЧАСОПІСЫ: ЛІСТАПАДАЎСКІЯ НУМАРЫ

# НЕ ХЛУСІ БОЛЕЙ, ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА!

Найперш раю чытачам пазнаёміцца з адзінаццатым нумарам «Нёмана», у якім апублікаваны раман М. Сяднёва «І той дзень надыйшоў» (пераклад А. Ждана). Прадстаўляць спадара Сяднёва наўрад ці ёсць патрэба. Так, гэта наш суайчыннік, які воляю лёсу апынуўся за мяжой. Выступае як паэт і як празаік. Аўтар двух раманаў—згаданага і «Раман Корзюк». Абодва—аўтабіяграфічныя. У «Рамане Корзюку» аўтар запыняе ўвагу на гадах студэнцтва, арышце, допытах энкэвэдзістаў. У другім жа рамане таксама мае месца перажытае аўтарам перад вайной, але тут больш моцны лірычны пачатак—расказваецца пра першае каханне героя, а падзеі, звязаныя з арыштам, застаюцца як бы на другім плане.

Раман «І той дзень надыйшоў» пісаўся М. Сяднёвым у 1986—1987 гадах і ў тым жа, 1987 годзе пабачыў свет за сродкі аўтара ў Глен-Коў. Цытаты для падмацавання сваіх разваг пра гэты твор буду прыводзіць па згаданым выданні (балазе, пісьменнік па прыездзе на Радзіму падарыў свае кнігі бібліятэцы імя У. І. Леніна). Стрыжнявы момант рамана—жыццё галоўнага героя ў час акупацыі. Да М. Сяднёва ніхто яшчэ гэтак праўдзіва не пісаў пра сумненні, перажыванні, няўпэўненасць, дваякасць становішча тых, хто ці спрабаваў застацца на свайго роду «нейтральнай паласе», ці вымушаны быў шукаць апекі ў... фашыстаў. Зразумець гэтых людзей—значыць, прыпадняць яшчэ адзін пласт праўды аб мінулай вайне, які шмат дзесяцігоддзяў быў для нас адным са шматлікіх табу.

Учытаемся ў гэтыя радкі. У іх—незагойны боль, горкая споведзь літаратурнага героя і споведзь самога празаіка: «Я апынуўся ў пастцы. У мяне няма з яе выхаду. Я—нічэй. Я ненавіджу і **гэтых** (тут і далей падкрэслена аўтарам рамана.— **А. М.**). Яны падманілі нас. Мы дарэмна ім паверылі. Ненавідзячы іх, я ўсё яшчэ жадаю ім перамогі. Ня ведаю, чаму. Яны ж для мяне не абаронцы. Пярэймуць дзе на дарозе — бяспаспартнага, мяне расстраляюць. Я для іх—партызан». Чалавек адчуў, зразумеў: цяжка, немагчыма заставацца ні з кім. Ні з немцамі, ні з партызанамі. «І гэтак я жыву ў нічэйнай, раздвоенай вёсцы. І сам я нічэй. І я ні туды, і я ні сюды. Я ня ведаю, хто я. Ніхто, я не магу стаць на той ці іншы бок. Мяне бакі не цікавяць. Я абпёкся на гэтых бакох. Я стаў бы ўжо на адным баку і той бок абярнуўся мне бокам. Больш не хачу ніякіх бакоў. Яшчэ на Калыме я даў сабе зарок зрачыся ўсяго, каб нічым не звараччаць на сябе ўвагу, ні ў чым ня браць удзелу. Жыць для сябе, ціха, непрыкметна, задаволіўшыся, скажам, пасадай нейкага стоража».

І ў гэтай споведзі, да якой, здаецца, пакрысе прывыкаеш, стрэлам гучыць: «Я прывык, што чырвоная зорка хлусіць!» Што ж, супраць праўды не пойдзеш. Мікола (так завуць героя рамана) і падобныя да яго пакутнікі на ўласным хрыбце зведалі, што, як ні сілься быць добрым, сумленным, а «чырвоная зорка хлусіць». Добрыя лозунгі і абяцанкі ператвараюцца ў нешта неабавязковае, калі справа тычыцца канкрэтнага чалавечага лёсу. Яго ламаюць, як толькі могуць. Бо што нейчы лёс? Важней шчасце ўсяго чалавецтва! Няхай і ілюзорнае, змочанае людской крывёю. Самае страшнае, што і ў самім грамадстве з такой несправядлівасцю як быццам звыкліся. Ці не адсюль своеасаблівае стаўленне вяскоўцаў да Міколы: «мне гавораць, што мая **сьмерць расстраляная** і мне ўжо няма чаго баяцца». І ён, у сваю чаргу, кажа таксама як пра зразумелае: «Ды я і не баюся».

Апошняя кропка ў рамане як быццам не пастаўлена. Нарадзіўся ў Міколы з Дусяй, першай каханкай, сынок Васілёк. Тым самым нейкі прасветак у лёсе настаў, паменела чорных хмар над галавой. Але ж—памятаеце аб прызнанні: «чырвоная зорка хлусіць»? Пачынаецца вызваленне беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Каму радасць, а каму... Герой М. Сяднёва, як і сам ён у свой час, кіруецца ў новую для сябе дарогу, не ведаючы, якой яна будзе і куды ў рэшце рэшт прывядзе.

На гэтым спыняецца жыццё літаратурнага персанажа і пачынаецца жыццё самога М. Сяднёва. Гэта ўжо па-за творам. А што сам твор вернуты беларускаму чытачу, заслуга «Нёмана».

Знаёміць чытача з творчасцю прадстаўнікоў беларускага замежжа працягвае і «Полымя». У адзінаццатым нумары —падборка Н. Арсенневай «Сон аб родным краі» (публікацыя і невялічкі ўступ Б. Сачанкі). Пра ваенную часіну ў жыцці паэтэсы, праўда, сказана зусім эскізна: «З прыходам нямецка-фашысцкіх захопнікаў працавала ў «Менскай (Беларускай) газэце», была кіраўніком аддзела літаратуры так званага Беларускага культурнага згуртавання». Так, працавала, бо, кажучы словамі М. Сяднёва, і Н. Арсеннева пераканалася, што «чырвоная зорка хлусіць». Хай сам Бог будзе ёй суддзёй, як кажуць, ды толькі, мне здаецца, ёсць розніца паміж «нейтральнасцю» М. Сяднёва і супрацоўніцтвам з захопнікамі Н. Арсенневай. Відаць, усё ж слушна гаварыў пра гэта на старонках «ЛіМа» Валянцін Тарас. Так, трэба гаварыць праўду, кім была тая ж Н. Арсеннева ў вайну, і адначасова трэба друкаваць яе творы, як факты і з'явы літаратуры. Інакш будзе доўжыцца несправядлівасць, якая гатова абярнуцца і фізічнымі пакутамі. Пра гэта таксама ўжо сказана. Напрыклад, сталінскім нявольнікам Б. Чычыбабіным, творы якога ў перакладзе У. Скарынкіна змешчаны ў «Полымі»:

**Твой сын, я ад болю не плакаў,**
**не вохаў,**
**я Разіну стругі з маленства**
**смаліў.**
**Расія русалак, бадзяг,**
**скамарохаў,**
**чаму ты як мачыха**
**дзецям сваім?**

Тое ж можна сказаць і пра Беларусь. Яна таксама была мачыхай ну хоць бы таму самаму беларускаму замежжу?! І добра, што ўсё тое—ў мінулым, што сёння ўжо немагчыма ўявіць сабе нашу літаратуру без галасоў колішніх сталінскіх вязняў.

У «Полымі»—і яшчэ адна такая споведзь. Маю на ўвазе вершы старэйшыны беларускай паэзіі А. Звонака. Пра незабытае, пра выпакутаванае, пра збалелае. Пра тое, як доўга прабівала праўда дарогу да святла: «Было, было... Ранцье тытуляваны, што трыццаць год радка не падарыў, тым, хто прыйшоў ад сопак Магадана ў дні хрушчоўскай веснавой пары, не надта шчыра й горача прывеціў, лічыў, што кожны ў нечым вінават, што дысідэнты—сукіныя дзеці, што ім пара даць выспятка пад зад...»

Паэзія толькі тады нешта значыць, калі пастаянна абнаўляецца. Тычыцца гэта, зразумела, і самога мастакоўскага працэсу ў цэлым, але—не ў меншай ступені—і развіцця асобных творчых індывідуальнасцяў. Даўно з'яўляюся прыхільнікам таленту Р. Барадуліна, ды вось прачытаў яго чарговую нізку («Беларусь») і— быццам нанава адкрыў для сябе паэта. Асабліва пасля прачытання верша «Вітаю!». Ці не кожны аматар паэзіі ведае, як непаўторна расказваў Р. Барадулін у сваіх вершах пра самага дарагога чалавека—Маці, а тут, здаецца, вымалёўваецца новая старонка ў яго творчасці. Таксама аўтар ідзе ад асабістага, свайго пачуццёвага і разам з тым... Ды хай лепей скажуць радкі верша:

**А цяпер мне і падумаць дзіка,**
**Што цябе калісьці не было, —**
**Добры дзень,**
**Унучка Дамініка —**
**Воч маіх апошняе святло.**
**Радуюся ўсмешцы, плачу,**
**крыку,**
**Тытулу шаноўнейшаму—дзед.**
**І малюся: ўнучку Дамініку**
**І пасля мяне не ўкрыўдзі, свет!**

У многім мы прыбядняемся, калі канстатуем: і таго няма ў беларускай літаратуры, і гэтага; і тое робіцца не так і гэта не заўсёды дацягвае да адпаведнага ўзроўню. Шмат наракаем і на прозу. А прачытаеш «празаічныя старонкі» лістападаўскіх нумароў і падумаеш: «А ўсё ж, браткі, грэх на душу бераце, калі быццам сварлівая свякруха, спрабуеце знаходзіць у нявесткі недахопы!» Што ні аўтар, дык свой почырк. М. Лужанін, разумеючы, «як рызыкоўна брацца пісаць пра сабаку пасля выдатных жыццярысаў яго слаўных папярэднікаў, як Белы Клык і Белы Бім», парадаваў цікавай аповесцю «Добры хлопец Дзік». У тым жа «Полымі» — два апавяданні В. Гардзея— «Рыжыя Груды» і «Кавэрда». Пластычна выпісаны характары, псіхалагічна абгрунтаваныя сітуацыі. А. Казлоў («Маладосць»), у адрозненне ад В. Гардзея-традыцыяналіста, смела абжывае новыя жыццёвыя пласты, у творах яго суседнічае рэалістычнае і фантастычнае. Пры гэтым аўтар не страчвае, як кажуць, пачуцця меры, не кідаецца ў фармальныя пошукі. І гэта радуе.

Гаворка пра раман-даследаванне Я. Міклашэўскага «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча», думаецца, наперадзе. Пакуль што «Маладосць» прапануе фрагменты з твора, якія адлюстроўваюць яраслаўскі перыяд жыцця і творчасці Максіма-Кніжніка. Але і з апублікаваных раздзелаў (працяг будзе) відавочна, што Я. Міклашэўскі падышоў да тэмы не з наскоку, шмат папрацаваў, абагуліў матэрыял, па-свойму асэнсаваў асобныя факты, даў ім новую інтэрпрэтацыю, старонкі навелістычнага характару стасуюцца з раздзеламі даследчыцкага кірунку. Увогуле, раман-даследаванне Я. Міклашэўскага, па-мойму, падштурхне яшчэ сяго-таго ўзяцца за гэтую тэму. У іншых літаратурах пра вядомых пісьменнікаў створана звычайна нямала кніг. Мы ж тут вельмі і вельмі адстаём.

Юбілей М. Багдановіча паклаў адбітак на лістападаўскія нумары «Полымя», «Беларускай мовы і літаратуры ў школе». У першым—артыкул У. Конана «Роздум пра вечнае ў паэзіі Максіма Багдановіча». З публікацый «Беларускай мовы...» вылучаецца эсэ А. Клышкі «Твор на штодзень і назаўсёды», у якім аўтар аналізуе славутую багдановічаўскую «Пагоню». Шмат пазнаваўчага матэрыялу ў нарысе Т. Кароткай «З роду Страцімавых» (пра нашчадкаў М. Багдановіча), у артыкуле У. Содаля «З жыццяпісу Максіма Багдановіча».

Што яшчэ? Раю яшчэ раз вярнуцца да «Полымя». Публікацыя раздзелаў з кнігі С. Пільштыновай (Русецкай) «Авантуры майго жыцця» (пераклад з польскай мовы і ўступнае слова «Жыццяпіс лекаркі і падарожніцы»—М. Хаустовіча) —не столькі адкрыццё легендарнага імя з нацыянальнай гісторыі (у 1989 годзе выйшла кніга В. Грыцкевіча «Адысея навагрудскай лекаркі»), колькі магчымасць адчуць, далучыўшыся да першакрыніцы, няхай і ў перакладзе, якая багатая літаратура была ў нас раней, прынамсі, у васемнаццатым стагоддзі.

Чытач, магчыма, заўважыў, што я ні слова не сказаў пра публіцыстыку. Сказаць, можа, і трэба было б. Вартыя ўвагі матэрыялы ёсць. Гаворыцца ў іх пра многае. Згадваюцца праблемы фермерства і арандатарства, гучыць трывога за экалагічнае становішча ў рэспубліцы, за пражыванне на тэрыторыі, забруджанай чарнобыльскай радыяцыяй, і г. д. Публікацыі патрэбныя, але — без адкрыцця, пра ўсё гэта пісалася і гаварылася шмат разоў. Трэба, мусіць, паруціцца аб тым, каб публіцыстыка ў перыёдыцы была перш-наперш—літаратурай. Не забудзем жа, што чырвоная зорка хлусіла толькі таму, што падобная мана вельмі многім з нас падабалася.

**А. М.**

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СЯБРОЎСКІ ПОЦІСК




Кніга перакладаў Уладзіміра Паўлава «Поціск рукі» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (серыя «Кніга перакладчыка» выдаецца тут з 1984 года). У зборніку змешчаны вершы амаль пяцідзесяці аўтараў, прадстаўнікоў рускай, украінскай, грузінскай, літоўскай, латышскай, таджыкскай, туркменскай, эстонскай, абхазскай, асецінскай, чувашскай, яўрэйскай, балгарскай, польскай, сербскай літаратур.

З'явіліся і першыя водгукі на кнігу. Прыйшлі яны з Літоўскай Рэспублікі. Э. Межэлайціс, напрыклад, піша перакладчыку: «Вялікі дзякуй Вам за братні «Поціск рукі» — я вельмі рады, што вузы дружбы між бліжэйшымі суседзямі не перапыняюцца». Амаль тое ж і ў лісце Ю. Марцінкявічуса: «Вялікі Вам дзякуй за кнігу «Поціск рукі», у якой я знайшоў пераклады і маіх вершаў. Радуюся і ганаруся. Вялікіх поспехаў Вам і ўсёй беларускай Музе!»

**С. ВІРЗОЎСКІ.**

За нечы кошт уежнасці і ўлежнасці
Спрадвек не дамагаўся беларус.
Ён прагне, як літовец, незалежнасці,
Бо зведаў здзек, знявагу і прымус.

Мелодыі літоўскія нагадвалі
Мне мелас мілагучны землякоў,
А жыхары мясцовыя паглядвалі
На нас, як быццам на рабаўнікоў.

Нідзе падоўгу з намі не важдаліся,
Не падпускалі да паліц і кас.
І толькі словы мастака Каждайліса
Змаглі, нарэшце, супакоіць нас.

— Мы з беларусамі—
браты стрыечныя,—
Пераканана гаварыў мастак, —
І нашы з вамі сувязі спрадвечныя
Не разарваць, не рассячы ніяк.

У будучыню веру я шчаслівую—
Сальюцца галасы ў суладны хор.
З анёлам на руках раку бурлівую
Пяройдзе шматпакутны Хрыстафор.[1]

1990 г.

[1] Святы Хрыстафор, які з анёлам на руках пераходзіць раку,—герб г. Вільнюса.

●

Хоць заняты і часу не мае,
Хоць «жыццё пераела плеш»,
Не пагрэбуе—затрымае,
Запытаецца: — Як жывеш!

Пастаіць, хоць няма разліку
У яго размаўляць з табой,
Пацікавіцца для прыліку:
— Ці працуеш! Ці рвешся ў бой!
І без ценю спагады ў грымасе,
Быццам ён асвяшчае храм,
Развітаецца:—Ну трымайся! —
Хоць бы мог падтрымаць і сам.

Пойдзе важна... І давядзецца
Усміхнуцца спагадна ўслед...
Як жахліва, што спадзяецца
На такіх утрымацца свет.

# Макрамэ

Дождж, не ведаючы меры,
Пяты дзень ідзе.
Бегаюць, як вадамеры,
Кроплі па вадзе.

Зноў над марамі і снамі
Шэры змрок нябёс.
Дух, нібыта пыл, дажджамі
Прыбівае лёс.

Ну, і што! Хай прыбівае,
Б'е з усіх канцоў.
У жыцці і горш бывае,
Як казаў Рубцоў.

Нада мной навіслі хмары—
Толькі і ўсяго...
Прылятайце, сны і мары,
Да кастра майго.

Хто сказаў, што недарэчы
Льюць дажджы і льюць!
Пяты дзень яны з макрэчы
Макрамэ снуюць.

●

З крылом перабітым нядаўна
Упаў я з захмар'я на мох.
Падняцца і выйсці з накдаўна,
На жаль, не адразу я змог.

Я доўга ляжаў непрытомны —
І неба блакітнае здзёр
З душы трапяткой бессаромны,
Бязлітасны лёс-марадзёр.

Ачомаўся—сэрца заныла.
Наўкол парахнела лісцё.
Няўжо ты мяне прызямліла
І так нечакана, жыццё!

Лясныя рачулкі ўшчувалі
Мяне вельмі доўга:—Настрой
Сябе, як калісьці, на хвалі
Высокіх памкненняў і мрой!

І выраслі новыя крылы,
Заззялі камет палашы.
І зноў прыраслі небасхілы
Да абрабаванай душы.

*Жан заплюшчыў вочы і нібы збіраў* усе свае сілы для апошняга слова.

— Жэром! — ледзь прабіўся яго ціхі голас.— Я не хачу цябе бачыць. Ідзі адсюль. Ідзі і ніколі больш не прыходзь. А Жэром быццам і не чуў гэтых слоў. Ён асцярожна папраўляў коўдру і супакойваў хворага:

— Ай-яй-яй, варушышся, круцішся, прастудзішся яшчэ. Вось дзе дзівак!

— Не называй мяне так! Я забараняю табе!

— Дарэчы, ты ведаеш, што вечарам да цябе зойдзе наш шэф Маландрэн?

— Пляваць мне на яго! — *чуеш?* — на ўсіх мне напляваць!

Ён хацеў прыўзняцца на адзін локаць, але рэзкі боль прымусіў яго зноў упасці на падушку. І нібы праз туман бачыў ён, як Жэром устаў, апрануў паліто і ўзяў свой капялюш...

●

У той самы вечар у шпіталі з'явіўся месьё Маландрэн — невысокі тоўсценькі чалавечак з чорнымі бліскучымі вачыма.

— Вітаю вас, дарагі,—бадзёра пачаў шэф,—і віншую! Віншую вас з тым, што вы, нарэшце, парушылі будзённае, ціхаплыннае жыццё нашага бюро!

— Месьё Маландрэн, мне прыемна гэта чуць ад вас, але што я такое зрабіў, каб..,—адказваў, запінаючыся, Жан.

— Вось гэта прыгода дык прыгода! Вы ведаеце, *Жан, я ў захапленні* ад вас.

— Месьё Маландрэн, што вы, што вы, я...

— Паслухайце, Жан, як жа гэта цудоўна, як жа гэта прыгожа — так кахаць! Кахаць да самазабыцця, калі нават уласнае жыццё прыносіцца на алтар гэтаму высокаму пачуццю!..

— Месьё Маландрэн, але ж я нікога не кахаю, і паверце, вельмі даражу сваім жыццём.

— Мілы мой,— не супакойваўся Маландрэн,— мне сорак сем год. Але і я калісьці быў малады. І я скажу вам шчыра: «Я разумею вас. На вашым месцы я зрабіў бы тое ж самае. Ведаеце, толькі сапраўдныя мужчыны і могуць запаліць касцёр высокіх пачуццяў!»

Пасля ранішніх дэбатаў з Жэромам цяжка было Жану падтрымліваць гаворку. І ўсё ж ён паспрабаваў не пагадзіцца з шэфам:

— Гэта самы звычайны няшчасны выпадак. Ніякім самазабойствам тут і не пахне...

Месьё Маландрэн па-бацькоўску ўсміхнуўся.

— Вы цудоўны чалавек, Жан. І ваша сціпласць робіць вам толькі гонар. Я вельмі цаню вас і, ведаеце, я сёння прасіў месьё Мурга падумаць пра больш высокую пасаду для вас.

— Дзякую, месьё Маландрэн, паверце, я...

— *Нічога, нічога, дарагі.* Давайце вашу руку і хутчэй папраўляйцеся! Вы — чалавек маёй натуры. Мне прыемна мець справу з тым, хто разумее мяне з паўслова.

І месьё Маландрэн паціснуў тое, што *было два дні назад Жанавай рукой,* а цяпер стала гіпсавай трубою.

●

Цяжкі одум апанаваў маладога чалавека, калі ён застаўся адзін. Спачатку яго раздражняла тое, што і Жэром і Маландрэн далі такое рамантычнае тлумачэнне ягонай бядзе. Ну, а Дэніза, тая, вядома, заганарылася: як-ніяк з-за яе чалавек кінуўся пад машыну. О! Яна вялікая артыстка і ахвотна возьме на сябе ролю вераломнай жанчыны-фаталісткі, што ўпіваецца каханнем і прымушае трапятацца кожнага мужчыну! Напэўна ж яна цяпер выхваляецца, называе мяне «мой бедненькі», носіць свае штучныя самацветы ў даўнейшай аправе і не шкадуе памады, тушы, фарбы! Якое глупства! Я ж ніколі не кахаў яе! Парваць з ёю вырашыў яшчэ тады, калі ёй і не снілася пра гэта! А цяпер вось стаў прагнаным пакрыўджаным рыцарам! І ўсе нябось лічаць, што я — ахвяра, я — выціснуты лімон, я — цацка, якую капрызнае дзіця шпурнула пад канапу!

І тым не менш, пасля размовы з Маландрэнам штосьці пахіснулася ў пазіцыі Жана. Як бы там ні было, а агульныя сімпатыі — на ягоным баку. Салідныя, паважаныя людзі ганяць паводзіны Дэнізы і хваляць мяне... Сама думка, што можна памерці з-за каханай, падабалася ўсім жанчынам і нават некаторым мужчынам. Аднак жа ён не хацеў памерці з-за жанчыны, а значыць і ягоная рэпутацыя — фальшывая! І *не* далёка ён адышоўся ад Дэнізы, раз таксама ўводзіў у зман людзей!.. Дык навошта яму тады гэтыя сімпатыі?.. Ах! Ну чаму ж мне ніхто не верыць?..

Дрэнна спалася ў тую ноч Жану. Яму *ўсё снілася нейкая велізарная* чорная малпа, якая паўтарала Жанавы словы, жэсты і, нарэшце, заняла яго месца ў бюро.

Назаўтра апоўдні да яго завітала маладая прыгожанькая балбатлівая сакратарка з іх бюро.

— *Гэта так прыгожа,* што вы пайшлі на такое! — прашчабятала яна, чырванеючы.—Скажыце, вы вельмі кахалі яе?

Жану стала не па сабе. Ён хацеў яшчэ раз усё растлумачыць, расставіць усё на месца, разжаваць, але сіл і мужнасці яму ўжо бракавала, і ён адвярнуў галаву ўбок.

— *Ах! Каб жа гэта ўсе мужчыны* былі такія, як вы! Скажыце, вы шмат пакуталі?

Жан акінуў яе позіркам. Яна з трывогай чакала адказу. Яна баялася расчаравацца. І Жан пашкадаваў яе:

— Гэта было вельмі страшна.

— Ну, а... пад машыну... Вы адразу рашыліся?..

— Так... не... ну, ведаеце, у такі момант не думаеш...

І ён змоўк. Агідна стала на душы ад уласнай хлусні і гэтай незаслужанай увагі.

— Дзякуй вам! Калі глядзіш на такіх мужчын, як вы, зноў пачынаеш верыць, што ёсць-такі каханне на свеце!

— Не будзем больш пра гэта,— сціпла сказаў Жан. І ашчасліўленая сакратарка выйшла з пакоя...

Калегі па рабоце не пакідалі ў самоце Жана. Штодня абавязкова хтосьці захо*дзіў і кожны перш-наперш спяшаўся* засведчыць сваю павагу да рыцарскага ўчынку хворага. Па пошце прыйшлі дзве ананімныя запіскі, якія парадавалі і сагрэлі Жанава сэрца:

«*Як бы мне хацелася, каб мяне пака*халі так, як кахаеш ты». Подпіс: «Незнаёмая бландзінка».

А ў другой запісцы быў вершык:

Ты, хто памерці гатоў за каханне,
Пажыві для мяне, не ўмірай!
Ты сустрэнеш мяне на спатканні
І жыццё ператворыцца ў рай!

І подпіс: «Адна з тваіх калег, якая любіць высокія чыстыя пачуцці».

●

Усе гэтыя размовы з саслужыўцамі, гэтыя бясконцыя дыфірамбы, гэтыя пяшчотныя словы *павагі і захаплення* рабілі сваю справу, і Жан пачынаў памалу сумнявацца ў самім сабе. А хіба й на самай справе яму так ужо хацелася парваць з Дэнізай? І ці прынесла яму душэўную палёгку яго свабода? Няўжо ён быў такі шчаслівы, калі выбягаў з пад'езда? Вядома, у той вечар, можа, і не было ўжо колішняй узнёсласці ў іх адносінах з Дэнізай. Але пяшчоту да гэтай жанчыны сэрца, безумоўна, захавала. Падточваў душу чарвячок ціхай, затоенай рэўнасці: як-ніяк перавага была *аддадзена нейкаму зубному ўрачу...*

І чорт нанёс гэтую машыну! Быў жа, відаць, у мяне час, каб ўратавацца! Але ж не, палез... Жыць надакучыла, ці што?!.

І зноў зайшоў Жэром:

— Ну, як маешся Рамэа?

— Ды, ведаеш, не зусім... Да папраўкі яшчэ далёка...

І Жан пачаў распытвацца пра Дэнізу: Як яна? Ці хвалюецца? Ці адчувае сваю віну? Як выглядае? Ці збіраецца прыйсці ў шпіталь?..

У адказ Жэром закашляўся, заёрзаў і... мусіў прызнаць, што Дэніза нават не пацікавілася яго здароўем.

— Што ж... Гордая яна...— тлумачыў сам сабе Жан паводзіны былой сяброўкі.— Гордая, таму і не хоча выносіць на паказ свае пачуцці... У гэтым мы з ёй аднолькавыя...

Як толькі Жэром пайшоў, Жан паклікаў санітарку і папрасіў яе з'ездзіць да яго дадому і прывезці невялікую скрыначку, дзе захоўваліся пісьмы і фатаграфіі Дэнізы. Ён перачытваў гэтыя доўгія любоўныя пасланні, дзе амаль кожная фраза выклікала ў памяці пікантныя ўспаміны. Слязіліся вочы і млела сэрца, калі ўглядваўся ён у фатаграфіі той, хто ледзьве не стала прычынай ягонай пагібелі.

Але чаму ж яна не прыходзіць? Яна ж ва ўсім вінаватая! І яна гэта ведае лепш, чым хто! А можа, яна сама сабе не давярае і баіцца сустрэчы з ім, каб не пачаць усё спачатку?!

І зноў Жан паклікаў санітарку і прадыктаваў ёй вось гэтае пісьмо:

«Дэніза, дарагая! Я дараваў табе. Чакаю цябе! Прыходзь! — Жан».

Пацягнуліся бясконцыя дні пакутлівага чакання. Пры кожным слове, пры *кожным гуку ў калідоры Жан* уздрыгваў, заміраў і прагным позіркам упіваўся ў дзверы. Але тая, каго ён чакаў, усё не ішла. Замест яе прыходзілі саслужыўцы. Жан сустракаў іх так холадна, паводзіў сябе з імі так жорстка, што ахвотнікаў хадзіць у шпіталь рабілася ўсё менш і менш.

Адзінай уцехай былі для яго толькі фатаграфіі Дэнізы. З імі ён засынаў і прачынаўся, з імі ён гаварыў, сумаваў і плакаў. «*Ну і кабета,*— шапталіся паміж сабою санітаркі,— да чаго давяла чалавека... Зусім галаву страціў»... Тым не менш яны з радасцю згаджаліся напісаць пад дыктоўку хворага чарговае пісьмо Дэнізе. Аднак усе Жанавы лісты засталіся без адказу.

●

Праз два месяцы Жана выпісалі са шпіталю, а яшчэ праз тыдзень урач дазволіў яму рабіць невялікія прагулкі па вуліцы. І перш-наперш малады чалавек пакульгаў да Дэнізы. Калі нарэшце ён даплёўся да пятага паверха і апынуўся *перад знаёмымі дзвярыма,* сэрца яго забілася так, што давялося спыніцца і перадыхнуць. «Нічога, я такі дайду да яе, нікуды яна не дзенецца, вось зараз зайду і ўсё будзе добра. Не можа быць, каб яна пра ўсё забылася...» — так супакойваў сам сябе Жан... І ён рашуча націснуў на званок... Хвіліна, другая... Дзвярэй ніхто не адчыняў... Яшчэ званок... Другі... Трэці... Цішыня. Тады Жан пачаў стукаць у дзверы кулаком...

— Што вы там забыліся? — пачулася з ніжняга паверха. Да яго спяшалася кансьержка.

— Ды мне трэба пабачыць мадмуазель Дэнізу Пакэ, — адказаў Жан.

— Паслухайце, малады чалавек! Вось ужо тры тыдні, як яна пераехала адсюль.

— Як?! Тры тыдні?!

— Ну а што ёй тут рабіць?! Замуж выйшла і паехала сабе да мужа!..

Штосьці абарвалася ў Жанавай душы. Ашаломлены, *няшчасны малады* чалавек ледзьве спусціўся па лесвіцы. Доўга блукаў ён па начным Парыжы, і нейкае новае, невядомае дагэтуль пачуццё паступова авалодвала ўсёй яго істотай. Жан памалу супакоіўся і абыякава пазіраў, як кудысьці спяшаюцца людзі, як сотнямі агеньчыкаў мільгаюць рэкламы... «Жыццё ідзе сваім ходам,— нечакана падумалася Жану,— ды толькі мне ўжо з ім не па дарозе...»

Ён даклыпаў да бульвара Манмартра. Усхадзіўся моцны вецер, паліў густы дождж. На мокрым бліскучастым асфальце адбіваліся агні вітрын. Недалёка сталі свабодныя таксі...

*Вось каля самага тратуара імчыць* машына... Жан уваброў галаву ў плечы, сціснуў кулакі, і, калі да машыны заставалася два ці тры метры, кінуўся пад колы...

Ён яшчэ паспеў адчуць моцны ўдар, і, здалося яму, што проста над ім грымнуў страшэнны пярун...

...Калі Жана дасталі з-пад машыны, ён ужо не дыхаў...

Пераклаў з французскай
Леанід КАЗЫРА.

# «ПАВІННА Ж І Ў ВІЦЕБСКУ БЫЦЬ НЕШТА ДОБРАЕ...»

## Фестывальныя абразкі

### I

ПАЧЫНАЛАСЯ ўсё на зыходзе лістапада. Былі бясснежнымі вуліцы. І ні першы, ні другі, ні трэці дзень зімы не абвясціў яе надыход — ні снегам, ні марозам. Шэра-карычневы паўзмрок насоўваўся на Віцебск у разгар дня, паглынаючы няяркую фестывальную рэкламу. Няветлае надвор'е, раннія прыцемкі — і ўжо хапае, каб пачувацца скептыкам. Дык жа не! Позірк міжволі фільтраваў вонкавыя ўражанні праз «ружовае шкельца». Душа настройвалася на сентыментальны лад...



Заслужаны артыст Расіі А. МНДАЯНЦ.



Славуты бас — А. ВЯДЗЕРНІКАЎ.



Д. І. САЛЯРЦІНСКІ расказвае...

Хай не здаецца, што ўсе адкрыцці былі зроблены без малога год таму, калі ў Віцебску адбыўся другі, і ўжо міжнародны, фестываль камернай музыкі, прысвечаны памяці І. Салярцінскага і прымеркаваны да першых Шагалаўскіх дзён. Горад меў чым здзівіць і на гэты раз.

Абнавілася фестывальная рэклама. Някідкая, усё ж яна прыцягвала позірк. Бо і на транспаранце над вуліцай, і на друкаванай афішы з'явілася, нарэшце, графічная выява чалавека, чые асоба ды імя натхнілі ініцыятараў гэтага непаўторнага, як сам Віцебск, музычнага свята. Строгі партрэт Івана Іванавіча Салярцінскага вянчаў сёлета і фестывальную сцэну, быццам сцвярджаючы грунтоўнасць падзеі і замацаванне яе ў культурных традыцыях горада.

Дапускаю: каб не беднасць наша, распрацавалі б віцебскія мастакі трапную каляровую сімволіку, весела ды стыльна выглядалі б і афішы, і запрашальныя білеты. І праграмкі (пакуль абыходзіцца ўвогуле без іх)... Ды гісторыя не прымае разважанняў у духу «што б было б тады б калі б». Яна заўжды такая, як ёсць. А гісторыя, якую «піша» віцебскі фестываль, пакуль, дзякуй Богу, вартая павагі ды захаплення.

Вось — аснова асноў, арганізатарская культура. Гаспадары фестывалю «бясшумна, плаўна, непрыкметна» спраўлялі свой нялёгкі чын, умелі быць прадбачлівымі, ненадакучліва ўважлівымі. Ва ўсякім разе, журналісты адчулі гэта. І гаспадароў фестывалю, запачаткаванага абласным аддзяленнем колішняга Музычнага таварыства БССР пры падтрымцы спонсараў, пабольшала. Арганізатары — упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома, Віцебскае музычнае таварыства, Саюз музычных дзеячаў Беларусі. Спонсары — малое камерцыйнае прадпрыемства «Патэнцыял» (куды ўваходзіць і ранейшы фундатар — кааператыў «Лідэр») ды віцебская трыкатажная фірма «Фларыдэль». Дзякуй ім усім за абарону духоўнасці, за падтрымку мастацтва.

Старшыня праўлення Віцебскага абласнога МТ У. Правілаў, як фактычны распарадчы дырэктар фестывалю, вылучаўся веданнем аператыўнай інфармацыі, ёмістай памяццю, немітуслівай дзелавітасцю, пунктуальнасцю. Уладзімір Пятровіч знайшоў час і для досыць працяглай гутаркі. І вось што, прынамсі, казаў:

— Ужо вядомы факт, што ідэя такога ўшанавання памяці Салярцінскага належыць лідэру ансамбля «Класік - Авангард» Уладзіміру Байдаву, ураджэнцу Віцебска. Арганізаваць першы фестываль было цяжка: мы не звярталіся да афіцыйных улад, усё трымалася на энтузіязме і на асабістых знаёмствах. «Класік-Авангард» правёў тады 3 канцэрты. Узровень выканання — высокі, самі праграмы для віцебскай публікі — адкрыццё: Трыо Д. Шастаковіча памяці Салярцінскага, «Уверцюра на яўрэйскія тэмы» С. Пракоф'ева, творы С. Губайдулінай, У. Дзешавова, А. Шнітке, А. Тактакішвілі... Другі фестываль, пра які «ЛіМ» пісаў падрабязна, разгарнуўся шырэй: вакол «Класік-Авангарда» згуртаваліся іншыя музыканты, у праграмах з'явіліся іншыя кампазітарскія імёны; спонсары (а па сутнасці, самыя сапраўдныя мецэнаты, бо дапамагаюць мастацтву без аніякай для сябе выгады) павялічылі фінансаванне.

Сёлета прадоўжылася традыцыя: адкрыццё новых імёнаў, новых твораў. Энцыклапедычнасць асобы Салярцінскага блаславіляе на самыя розныя формы работы, і адкрытая нядаўна ў гарадскім Доме работнікаў культуры музычная гасцёўня дала магчымасць наладзіць цыкл фестывальных сустрэч. А дзякуючы такім музычна-паэтычным сустрэчам, навукова-тэарэтычным ды філасофскім гутаркам наш фестываль набывае і шырокія асветніцкія функцыі, і перспектыву. З'яўляецца магчымасць асвятліць звязаную з імем Салярцінскага гісторыю Віцебска 20-х з інтэнсіўным і унікальным тагачасным мастацкім жыццём. Можна ладзіць чытанні і ў сувязі з дзейнасцю іншых канкрэтных асоб. Піяністка Юдзіна, мастакі Надзя Лежэ, Дабужынскі, Кандзінскі, Шагал, Рэпін, Пэн, гісторык Сапуноў — я назваў зусім адвольна некалькі знаных імёнаў, і ўжо зразумела, якую багатую спадчыну мае Віцебшчына, так ці інакш звязаная з імі.

Ад сям'і Салярцінскіх атрыманы каштоўныя матэрыялы для будучага музея музычнай культуры Віцебска. А на фестываль намервалася прыехаць з паведамленнем пра Салярцінскага і яго асяроддзе пецярбургская музыказнаўца Людміла Вікенцьеўна Міхеева, жонка Дзмітрыя Іванавіча Салярцінскага. На жаль, перашкодзіла яе хвароба. Не ўдалося пакуль нам аднавіць і духоўнае аблічча бліжэйшых спадзвіжнікаў Салярцінскага ў Віцебску, а потым у Пецярбурзе,— М. Бахціна, Л. Пумпянскага. Але людзей, гатовых падзяліцца сваімі ведамі, ужо знайшлі: у Маскве, у Новасібірску. (Дарэчы, у Новасібірску на магіле Салярцінскага рэгулярна праводзіцца рытуал пасвячэння ў музыканты-тэарэтыкі, новасібірцы ладзяць і навуковыя канферэнцыі, звязаныя з імем Салярцінскага). Хацелася б, каб наш музычны фестываль развіваўся з удзелам навукоўцаў, мастакоў, літаратараў, тэатралаў, ператвараючыся, амаль паводле вучэння Бахціна, у карнавал мастацтваў. Тым больш, што Салярцінскі жыў быццам у карнавале шырокіх і грунтоўных ведаў у самых розных галінах.

Цяпер, як і мінулым разам, да нас прыязджаў на пару дзён Дзмітрый Іванавіч, сын Салярцінскага. Ён дырэктар Вялікай залы Пецярбургскай філармоніі, мае стасункі з лепшымі выканаўцамі і гатовы дапамагаць нам у пошуку цікавых гасцей. (Па ягонай рэкамендацыі на гэты фестываль быў запрошаны яркі малады піяніст В. Пальмаў). У сувязі з тым, што Віцебскае музвучылішча будзе цяпер насіць імя ягонага бацькі, Д. І. Салярцінскі абяцае паспрыяць творчым кантактам вучылішча з музыкантамі славутай піцерскай школы.



«Класік-Авангард» і саліст В. ЖЫВАЛЕЎСКІ.

Фестываль дапаможа ўзняць узровень слухацкай культуры і кампенсаваць брак свайго сталага філарманічнага мастацтва. Тэрмін яго правядзення арыентуецца на 2 (3) снежня, дзень нараджэння Салярцінскага, якому ў наступным годзе, дарэчы, споўнілася б 90. Я карэнны віцяблянін, скончыў тут музычнае вучылішча, потым кансерваторыю ў Мінску і жыву надзеяй на адраджэнне былой славы Віцебска як музычнай сталіцы.

### II

Віцебск, горад з душой-таямніцай, якую фарміравалі многія стагоддзі, розныя, поруч з беларускаю, культуры. Пад асфальтам вуліц, пад цяжарам наваспечаных камяніц схаваны твае карані, выток і падмурак тваёй гісторыі. Зямля маўкліва зберагае прах былога. На партрэце горада — сляды ваенных змаганняў ды жывучага «мірнага» варварства. Але стаіць памяткай старасветчыны не толькі, напрыклад, чародка ацалелых цагляных будынкаў на былой Падзвінскай. Выжыў і дыхтоўны драўляны дом на вул. Даватара — не хата, гарадскі дом з мезанінам, балконам, з печкай-галандкай! А па суседстве — колішняе купецкае жытло, мураванае, таксама з кафлянымі аздобамі ўнутры. Тут — выставачная зала, дзе да фестывалю быў прымеркаваны вернісаж сакавітых, натхнёных віцебскім краем, акварэляў І. Шкуратава.

Калі мы з калегамі аглядалі выстаўку, пажылая служыцелька залы паклікала за сабою: «А ў нас тут яшчэ і фларыстыка ёсць!» Аказалася, работы мастачкі-аматаркі Л. Салаўёвай: жыццярадасныя пано з рукатворных кветак, вытанчаныя карціны з лістоў ды пялёсткаў. Потым дзякавалі захопленай служыцельцы: «Колькі ў вас прыемнага, цікавага ў горадзе, якія віцябляне малайцы!» А тая, неяк па-мудраму ўсміхнуўшыся, адказала: «Павінна ж і ў Віцебску быць нешта добрае...»

Нам шанцавала на добрае. Цёплыя фарбы густоўных габеленаў і пяшчотная акварэль ды вышыванне віцебскіх мастачак С. Статкоўскай і Н. Лісоўскай, а таксама філасофская паліфанічнасць жывапісу іхняга земляка А. Вярэніча «не выпускалі» з залаў карціннай галерэі.

Неспадзяваным і радасным адкрыццём сталася экспазіцыя ў абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці ўзораў традыцыйнага мастацтва insitus «Талент шчырага сэрца». Зусім нечаканым было тут і з'яўленне... экскурсавода — як потым даведаліся, З. Яначкінай, супрацоўніцы АНМЦ. Раззнаёміліся. Аказалася, поруч з ёю шчыруюць Н. Федарыстава, Т. Якімовіч, Л. Вакар, таксама анёлы - ахоўніцы народнага мастацтва, якое трэба вывучаць, зберагаць, заахвочваць, паказваць на выстаўках. Што і зроблена.

Мажорны каларыт маляваных дываноў, самабытная філасофія лубочнага жывапісу, дасціпная мудрасць драўляных фігурак — незабыўныя! Адкрылі для сябе творчасць старэйшага віцебскага разьбяра і жывапісца-аматара Ф. Максімава, які сярод іншага ўвасобіў у дрэве легенду пра нараджэнне Заходняй Дзвіны. Ціхім жыццём выставачнага экспаната існуе гэтая прыгожая, кшталту паганскіх выяў, алегорыя: «Дзвіна, Віцьба ды Лучоса». А ў некалькіх сотнях крокаў ад будынка АНМЦ, на людным месцы, назаляе вочы даволі нягеглы фантан з металічнымі дзеўкамі. Аказваецца, «пра тое ж». З якой жа ласкі гэта дзіўнаватае стварэнне (аўтар — нехта Тарасян) ушчамілася ў цэнтр горада, быццам кінуўшы выклік і культуры, і самабытным мастакам, і гасцям Віцебска?..

Такі вось «вулічны эпізод» у мастацкіх уражаннях. Ды толькі экспазіцыі ў залах мяняюцца, і ўражанні разам з імі. А «вулічны эпізод», на жаль, застаецца...

### III

Не толькі магчымасць выбіраць, але і неабходнасць гэта рабіць,— адзнака сапраўднага фестывалю. А інакш — як падзяліць сябе паміж канцэртамі, выстаўкамі, сустрэчамі ў гасцёўні, дзелавымі размовамі?

Так, фестываль прапаноўваў выбар. Канцэрты Маскоўскага камернага аркестра пад кіраўніцтвам А. Рудзіна (ён і адкрыў музычнае свята), у тым ліку з удзелам піяніста А. Мндаянца. Сольнае выступленне А. Мндаянца. Фартэпіянны вечар В. Пальмава. Творы М. Глінкі, В. Моцарта ў выкананні «Класік-Авангарда». Канцэрт спевака А. Вядзернікава. Арыгінальнае падарожжа ў гісторыю беларускай вакальнай музыкі, якое для наведнікаў музычнай гасцёўні наладзіў В. Скарабагатаў (выканаўца і каментатар-вядучы ў адной асобе) разам з канцэртмайстрам Г. Каржанеўскай...

Утульная гасцёўня, у інтэр'ер якой арганічна ўпісваліся экспанаты з фонду будучага музея музычнай культуры Віцебска, увогуле зрабілася інфармацыйна-асветніцкім цэнтрам фестывалю.

Жаданы госць Д. Салярцінскі паказаў унікальны кіназапіс Трыо Д. Шастаковіча памяці І. Салярцінскага. Малавядомыя звесткі, свежыя думкі прагучалі на міні-канферэнцыі. Выступалі выкладчыкі Віцебскага пединстытута: М. Панькоў засяродзіўся на фактах біяграфіі М. Бахціна і ягонай жонкі Алены, ураджэнкі Віцебска; І. Лапін

распавёў пра філасофскія адкрыцці ды плюралістычнасць светапогляду М. Бахціна; сенсацыйную тэму прапанаваў В. Караўкін: «Рок-музыка з пазіцыі бахцінскага вучэння пра смехавую культуру».

Пад акампанемент фінальных апладысментаў дакладчыкам да мяне ў рукі непрыкметна сышла... маленькая кніжачка! Паэтычны зборнік Д. Сімановіча. Канечне ж, з аўтографам, канечне, з вершаваным, і ў духу фестывалю, і з непаўторнай рыфмай да прозвішча адрасата. Ад гэтай напаўжартоўнай імправізацыі наша размова перайшла на сур'ёзны лад: Д. Сімановіч распавёў пра цяжкасці, якія займеў у сувязі з клопатам пра наступныя Шагалаўскія дні. Запланаваны яны на лета, рыхтуецца адкрыццё музея-кватэры мастака, магчыма, удасца сабраць у Віцебску жывапісцаў на міжнародны пленэр, прысвечаны Шагалу. А галоўнае філасофска - эстэтычнае адкрыццё Бахціна — феномен смехавой культуры, пра які гаварылі ў гасцёўні,— падказвае ідэю для магчымага калёквіуму: творчасць Шагала з пазіцыі бахцінскага вучэння...

Аднаго разу гасцёўня ператварылася ў літаратурна-музычны салон. Па ініцыятыве У. Байдава была падрыхтавана спецыяльная праграма, сугучная атмасферы таго літаратурна-мастацкага асяроддзя, з якім зблізіўся Салярцінскі, пераехаўшы з Віцебска ў Петраград. Творы У. Дзешавова, Б. Шэхтэра, Г. Папова, С. Пракоф'ева ў выкананні ансамбля «Класік-Авангард», піяністаў Б. Штэйнбук, У. Дулава, А. Крымера чаргаваліся з вершамі А. Увядзенскага, М. Забалоцкага, К. Вагінава, Д. Хармса. Чытаў лаўрэат рэспубліканскага ды ўсесаюзнага конкурсаў А. Дашчынскі. Мы з калегамі ведалі яго як удумлівага і тонкага журналіста, з далікатнымі манерамі, з ціхім голасам. І вось Аляксандр раскрыўся ў абліччы натхнёнага чытальніка са шчырай меладычнай інтанацыяй, з лёгкай добрай усмешкай і ўпэўненай артыстычнай паставай.

Па вечарах цэнтр прыцягнення перамяшчаўся ў канцэртныя залы. Так, публіку яны прыцягвалі, асабліва калі на афішы былі ўжо знаёмыя віцяблянам імёны.

Салістка Літоўскай нацыянальнай філармоніі Ю. Лейтайтэ, якая супрацоўнічае з «Класік-Авангардам», палюбілася ўжо слухачам і ў Віцебску, і ў Мінску. На гэты раз яна выступала без ансамбля, дакладней, у ансамблі са сваім канцэртмайстрам Я. Гілельсам. На вышэйшым узроўні было ўсё: наплыў публікі (у Круглай зале Палаца культуры не хапала крэслаў — іх цягнулі ды цягнулі аднекуль, ссоўвалі шчыльней); прыём (апладзіравалі шмат, горача і там, дзе трэба); культура вядзення канцэрта (змест франкамоўных твораў ва ўласным перакладзе спявачкі, якая валодае некалькімі мовамі, на рускую, зачытвала вядучая). І, канечне, само выкананне.

Дзівосная спявачка: які высакародны тэмбр, якое піяна, якое артыстычнае і асэнсаванае спяванне, ды нават маўчанне — услухоўванне ў сольныя фрагменты фартэпіяннай партыі! У трактоўцы Ю. Лейтайтэ кожная французская вакальная мініяцюра — маленькі спектакль, а цыкл «Лісткі старадаўняга альбома» В. Гаўрыліна — драма цэлага жыцця... А потым падбегла маленькая дзяўчынка і падарыла свой малюнак. Трымаючы ля сэрца і гэты кранальны лісток, і ўсе падораныя ёй кветкі, салістка парадавала нас на развітанне акапэльнай літоўскай народнай песняй «Ляціць жораў».

Выступленне В. Жывалеўскага ў тым жа канцэрце чакалі з асаблівай цікавасцю: гітара! Высакакласны музыкант упершыню выступіў і ў ролі каментатара-асветніка. З хваляваннем, імкнучыся ахапіць неабдымнае, распавядаў ён пра мінскі фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», пра бытаванне лютні на беларускіх землях 200 гадоў таму назад, пра факты з мінулага Віцебшчыны, пра Багдановіча і музыку... Апроч старажытных лютневых п'ес, перакладзеных для гітары, апрацаваных для гітары і ўдарных (У. Судноўскі) або клавесіна (Б. Спектар), В. Жывалеўскі граў і свае творы, прынамсі, «Элегію памяці С. Палуяна» і новыя кампазіцыі на тэмы беларускіх народных песень.

Прыемна, дарэчы, што ў фестывальнай паліфаніі выразна загучала і музычная спадчына беларусаў, і галасы нашых маладых аўтараў. Непарыўныя тэндэнцыі — адраджэнне гістарычных традыцый і пошук у авангардных плынях, — якім у Мінску былі прысвечаны запар два буйныя музычныя фестывалі, яшчэ цясней зблізіліся на віцебскім тыдні. Асабліва, быццам апраўдваючы сваю назву, шчыраваў «Класік-Авангард». У адным з яго канцэртаў, побач з сучасным зарубежным авангардам, гучалі натхнёныя актуальнымі ідэямі творы «Стронцый-90» С. Бельцюкова і «Памяці загінуўшага паэта» А. Соніна. А саліст А. Крымер прадстаўляў новы экспрэсіўны і дынамічны твор віцяблянкі Н. Усцінавай — Санату для фартэпіяна.

Назаўтра «Класік-Авангард» быў партнёрам В. Скарабагатава, які важка, стрымана і пранікнёна спяваў псальмы на вершы С. Полацкага ў адэкватным ансамблевым суправаджэнні. Затым ансамбль разам з салістам В. Жывалеўскім іграў «Віленскі сшытак». Як шкада, што віцябляне ўпершыню пачулі гэтую абаяльную музыку, створаную для камернай залы, у такой вялізнай аўдыторыі старарэжымнага прафсаюзнага палаца, цяперашняй філармоніі. Я нават засмуцілася і ўспомніла мо і грубаватую, ды трапную аналогію з ювелірным творам, выстаўленым на стадыёне. Але неўзабаве «байдаўцы» раскатурхалі і партэр, і галёрку, прымусілі слухаць, крычаць «брава!» Бо і ў гэтай акустычна непрывабнай зале ярка, з апломбам гучала музыка авангардыстаў У. Дзешавова («Экзатычная сюіта») ды В. Арцёмава («Сем характарных сцэн для камернага ансамбля»).

Гэта была сапраўдная ігра — у музыцы, як у тэатры. Музыканты «акадэмічнай гадоўлі» гралі з віртуознай заўзятасцю і гумарам джазменаў. І тое, што на тым канцэрце яны выступалі стоячы (так і не ведаю, чаму), дадавала шарму. Нарэшце даўмелася, адкуль асаблівая імправізацыйная лёгкасць і злітнасць дыхання выканаўцаў: на сцэне засталіся толькі «ветэраны»! У сувязі са зменай статуса калектыву істотна абнавіўся яго склад, і я пакуль не прывыкла да новых твараў. А тут — усе старыя знаёмцы: скрыпачка А. Мальцава, піяністка Б. Штэйнбук, кларнетыст Г. Забара, кантрабасіст У. Байдаў, ударнік У. Судноўскі. І кожнаму было дзе разгарнуцца як салісту, а ўсім разам — паказаць клас ансамблевага мастацтва.

Такое апошняе фестывальнае ўражанне. Праўда, пасля антракта меў выступіць нямецкапольскі дзіцячы сімфанічны аркестр. Але нам трэ было паспець на вакзал. Паспяшалі, зірнуўшы па дарозе ў вокны тэлерадыёмашын. Там на маніторах пабачылі знаёмыя твары: рэдактар Віцебскага ТБ Я. Герашчанка ўжо гутарыў дзесьці ў філарманічных кулуарах з У. Байдавым ды У. Правілавым. Вось чаму мы іх не знайшлі. Толькі і засталося, што зрабіць развітальны жэст у бок экранаў.

А снежань апраўдаў, нарэшце, сваё імя — за якія суткі пабяліў вуліцы, дахі, дрэвы. Захацелася вярнуцца сюды ў такую ж снежную пару, калі чарговым фестывалем будуць адзначацца 90-я ўгодкі Салярцінскага.

●

...У «ЛіМе» мяне чакала запрашэнне на прэм'еру дакументальнага фільма «Калі Віцебск быў Парыжам».

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Віцебск — Мінск.

Фота М. ШМЕРЛІНГА.

**ТЭАТР**

# У САМЫХ НЕПРАДКАЗАЛЬНЫХ ВАРУНКАХ...

**Гомельскі абласны драматычны тэатр адкрыў свой 52-гі сезон. На пытанні карэспандэнта адказвае новы мастацкі кіраўнік тэатра Барыс НАСОЎСКІ. 20 гадоў адпрацаваў Барыс Ісакавіч у Беларускім Акадэмічным тэатры імя Я. Коласа, ажыццявіў шэраг пастановак спектакляў у тэатрах Смаленска, Краснаярска, Ташкента, Камсамольска-на-Амуры...**

**— Барыс Ісакавіч, як стасуюцца вашы планы з тэатральнымі рэаліямі?**

— Абазначыць перспектыву дзеянняў лягчэй, чым ажыццявіць задуманае. З аднаго боку — ёсць шэраг акцёраў, якія могуць несці на сваіх плячах цяжар рэпертуару, гэта датычыць не толькі тых, каму нададзены ганаровыя званні. З другога боку — бракуе моладзі. Сярэдні ўзрост трупы — за 40!..

**— Але пры тэатры ўпершыню ў рэспубліцы быў адкрыты завочны акцёрскі курс Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (яго набірала Л. Манакова)...**

— Цяпер студэнты-завочнікі перайшлі на трэці курс. Але, па шчырасці, пакуль цяжка вызначыць, хто з іх праз год-два стане працаваць на прафесійнай сцэне. Таму ў новым сезоне яны будуць заняты не толькі ў масавых сцэнах, але і ў невялікіх ролях. Дадам, што запрашэнне маладых акцёраў, рэжысёраў, мастакоў з іншых гарадоў звязана з многімі цяжкасцямі: гэта і жыллёвая праблема, і вядомыя чарнобыльскія падзеі. Заўважу таксама, што рэпертуар тэатра ў наш складаны час — не менш складаная праблема. Існуе дзіўнае меркаванне, што сённяшні глядач мае патрэбу ў лёгкіх, забаўляльных спектаклях. Некаторыя тэатры практыкуюць правядзенне дыскатэк і «Шоу ў буфеце» да спектакля, пасля спектакля або.. замест спектакля. Верагодна, імкненне «ўтрымацца на плыву і дыктуе скіраванасць рэпертуару (у нас таксама большая частка спектакляў — камедыі). Упэўнены, што ў самых непрадказальных варунках, грамадска-палітычных пераменах тэатр мусіць заставацца тэатрам (я маю на ўвазе і высокую драматургію і годнае ўвасабленне яе на сцэне). У мінулым сезоне гамяльчане пабывалі на спектаклях «Дурнаваты Журдэн» па М. Булгакаву (рэжысёр Л. Манакова, мастак С. Кулажанка), «Адна за ўсіх і ўсе за адну» Н. Іарданава, «Вясёлыя прыгоды Айбаліта і Бармалея» Р. Быкава (рэжысёр Ю. Кулік, мастак С. Кулажанка), «Багатыя нявесты» А. Астроўскага (рэжысёр А. Гузій, мастак В. Осін), «Новыя часіны» Б. Нушыча (рэжысёр В. Ткач, мастак—В. Осін); сумесна з мастаком Д. Мохавым я паставіў «Зойчыну кватэру» па М. Булгакаву і «Барабаны ўначы» Б. Брэхта...

**— Гэта многа ці мала?**

— Колькасць спектакляў не вызначае стан спраў. Можна выпусціць тры спектаклі і працаваць на аншлагах, можна — дзесяць і граць для пуставатай залы.

**— З якімі аўтарамі мы сустрэнемся ў новым сезоне?**

— Разам з драматургам С. Кавалёвым мы працуем над інсцэніроўкай кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага. Спектакль пойдзе на беларускай мове пад назвай «Звар'яцелы Альберт»; «Вяселле Крачынскага» Сухаво-Кабыліна ажыццявіць рэжысёр А. Гузій і мастак В. Осін...

**— Мінулымі гадамі ў Гомель па вядомых прычынах баяліся ездзіць на гастролі. Сёлета, дзякуючы сацыяльна-творчаму заказу Міністэрства культуры СССР і асабістаму ўдзелу міністра М. Губенкі, мы пазнаёміліся з творчасцю тэатраў Краснадара, Кастрамы і Марыупаля. Вы ж наведалі гэтыя гарады. Як прайшлі гастролі?**

— Нашы спектаклі глядзелі таксама і ў Сочы. Думаю, што гастролі па дзяржзаказу нашага тэатра маглі адбыцца і таму, што шмат энергіі для іх ажыццяўлення аддала дырэктар тэатра В. Рагаўская... Пры поўных залах мы ігралі ў Кастраме; у Марыупалі з другога дня гастроляў у касах выстраіліся чэргі, а ў апошні тыдзень жадаючыя трапіць на спектаклі шукалі лішняга білеціка. Усё гэта прыемна, але, на жаль, так не заўсёды бывае ў сябе дома.

**— Якія ў вас першачарговыя праблемы?**

— Тэатру сёння складана існаваць матэрыяльна. Шукаем спонсараў. Дамовіліся з дырэктарам завода «Буромаўталінія» А. Балатоўскім; заўсёды гатовы дапамагчы тэатру дырэктар фабрыкі «8 Сакавіка» В. Станкевіч, рэктар політэхнічнага інстытута А. Шагінян. Відавочна, што ад ступені зацікаўленасці, інтэлекту, культуры кіраўніка прадпрыемства, навучальнай установы знаходзіцца ў простай залежнасці і духоўнасць яго калектыву...

**Гутарку вёў журналіст Г. ПІКОЎСКІ.**

г. Гомель.

**МУЗЫКА**

# Будзе і капэла Тызенгауза

**Рух па адраджэнні Беларускай капэлы, які так паспяхова пачаўся ў Мінску сёлетнім кастрычніцкім фестывалем старадаўняй музыкі, набыў свой добры працяг. Па ініцыятыве і пры дапамозе Саюза музычных дзеячаў Беларусі вядзецца падрыхтоўка да адкрыцця калісьці знакамітай Гродзенскай капэлы на месцы яе колішняга знаходжання.**

У XVIII ст. у Гродне былі музычная школа, тэатр, карцінная галерэя, балетная трупа. І ўсё гэта — плён мецэнацкай дзейнасці старасты горада А. Тызенгауза. Сённяшняй капэле мяркуецца даць ягонае імя. На пасаду старасты Гродні Тызенгауз быў прызначаны ў 1765 г. Ён прыняў горад у руінах пасля разбуральных войнаў канца XVII — пачатку XVIII ст., а праз 15 гадоў у Парыжы Гродна называлі «квітнеючай Галандыяй». Роля А. Тызенгауза ў станаўленні Гродні як горада высокай культуры выключная.

Намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкома А. Мілянкевіч, фізік па адукацыі, чалавек, улюбёны ў гісторыю свайго краю, які піша кніжку па гісторыі Гродні, лічыць, што А. Тызенгауз зрабіў для горада тое, што Пётр І для Расіі.

**— Наша задача сёння, — гаворыць Аляксандр Васільевіч,— адрадзіць хаця б тое, што было ўжо ў нашай культуры, а потым ісці наперад. Мы ганарымся, што пры гарвыканкоме ў наш час, калі каб не тое, што новае арганізоўваць, а, дай Бог, каб старое не разваліць, стварыўся камерны аркестр, і людзі, якія да нас прыязджаюць з іншых гарадоў і краін, не шкадуюць кампліментаў музыкантам. Аркестр мае шэраг запрашэнняў на канцэрты за мяжу. Я не музыкант, але разумею, што хор можа ўзбагаціць магчымасці аркестра, потым падумаем пра балет. Ад нас вы ніколі не пачуеце, што спачатку эканоміка, а потым культура, толькі ва ўзаемасувязі павінны яны развівацца. Праблемы, перш за ўсё, з фінансаваннем. Але я ведаю, што загадчыца аддзела культуры гарвыканкома Ірына Іванаўна Кліменка ўжо вяла перагаворы з будучымі спонсарамі. Дай Бог, каб у іх не знікла жаданне ўкласці сродкі ў высакародную справу падтрымкі сур'ёзнага мастацтва, таму што сіламі гарадскога бюджэту нам гэту справу не адужаць. А тое, што капэлу трэба адрадзіць, не выклікае ніякіх сумненняў. Мы з Ірынай Іванаўнай ганарымся, што нам удалося адваяваць Тызенгаузаўскі музычны флігель: будынак падлягаў рэканструкцыі, і там потым збіраліся зрабіць аддзяленне медвучылішча. А цяпер мы плануем адкрыць там музычную школу, каб прадоўжыць традыцыю, бо нават сцены старыя выхоўваюць. Можна было б размясціць там і будучую капэлу, напрыклад, на мансардзе, дзе заўсёды жылі музыканты. Гэта было б цудоўна!**

Сёння ў Гродне існуе камерны аркестр, заканчваецца фарміраванне камернага хору. Гэта базавыя калектывы для дзейнасці будучай капэлы. Задача ж яе — не толькі ўзнаўленне музычнага фонду жыцця Беларусі XVII—XIX стст., але і шырокае знаёмства з музыкай сучаснай, творамі кампазітараў-ураджэнцаў Гродзеншчыны. Буйной акцыяй Гродзенскай капэлы павінен стацца і Міжнародны музычны фестываль імя Агінскіх, з запрашэннем на яго, акрамя мінскіх музыкантаў, выканаўцаў з Польшчы, Літвы, Германіі, Украіны. Выдатна, што прапановы, якія выспелі ў сумесных абмеркаваннях прадстаўнікоў Саюза музычных дзеячаў Беларусі і музычнай грамадскасці Гродні, знайшлі безумоўную падтрымку гарадскіх уладаў. Сёння рэдка яшчэ даводзіцца сустракаць такое яднанне творцаў і кіраўнікоў у справе нацыянальнага культурнага адраджэння. Часцей першыя выступаюць у ролі прасіцеляў, а другія ім адмаўляюць з прычыны вечнага недахопу сродкаў.

За справу стварэння новай капэлы ўзяліся зацікаўленыя, неабыякавыя, творчыя людзі: кампазітары А. Бандарэнка, Я. Паплаўскі, загадчыца аддзела культуры Гродзенскага гарвыканкома. І. Кліменка, намеснік старшыні праўлення Саюза музычных дзеячаў Беларусі. Н. Вітчанка, а гэта значыць будзе і Гродзенская капэла Тызенгауза, і музычны фестываль імя Агінскіх.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.**

# «Трэба паверыць у свой нацыянальны геній, у здольнасць пастаяць за сябе»

(Пачатак на стар. 5).

работа, разлічаная на доўгі-доўгі час,— работа ў межах дзяржаўнага Закона аб мовах, зразумела.

Беларуская мова на працягу, бадай, чатырох стагоддзяў знаходзілася ў вельмі неспрыяльных, экстрэмальных умовах. За колькі ж часу можна вярнуць упушчанае? За год—за два? Ды не, вядома. Прышчапляць нашу мову ў душах і сэрцах жыхароў Беларусі давядзецца доўга. Да таго стану, калі гаварыць ёю будзе гэтак жа натуральна, як дыхаць, як жыць, можа быць, мы дойдзем толькі праз некалькі пакаленняў. І не трэба ад гэтага ўпадаць у песімізм. Мова належыць да катэгорый, лёс якіх вырашаецца на абсягах вякоў, а не ў межах аднаго ці двух дзесяцігоддзяў. Па маіх назіраннях усё больш грамадзян рэспублікі спрабуюць вярнуцца да беларускай мовы. Шчаслівае вяртанне! І хаця такіх фактаў яшчэ не вельмі шмат—давайце ўсё ж парадуемся ім. Бо нядобра, што мы трацім здольнасць спачуваць, пакутаваць, але нядобра і тое, што мы развучыліся радавацца. Хаця дасягненні яшчэ нязначныя, іх трэба ўспрымаць аптымістычна. Трэба верыць, што справядлівасць пераможа.

**— Адначасна з адраджэнскай — неакансерватыўнай, нацыянал-фундаменталісцкай — палітычнай плынню ў рэспубліцы існуе і плынь захавання прыярытэтнага і прывілеяванага стану рускамоўнай культуры ў Беларусі.**

**Прыкра, што ідэолагі і адэпты рускамоўнай культуры ў нас дасюль не пазбавіліся старой хваробы і публічна вызначаюць адраджэнскія высілкі як мяшчанска-правінцыйны комплекс. Якімі бачацца вам шляхі прымірэння і паразумення гэтых грамадскіх плыняў?**

— Адно з самых цяжкіх і пакутлівых для мяне пытанняў.

Пачнём з канстатацыі факта, што русіфікацыя Беларусі, усяго дзяржаўнага, грамадскага, духоўнага жыцця ў рэспубліцы дасягнула памераў жахлівых. Жахлівых — для лёсу нашай мовы, нашай культуры, нашай духоўнасці, для лёсу самой беларускай нацыі. Далей каціцца ўжо няма куды. Нацыянальна свядомыя беларусы, перш за ўсё з ліку творчай і навуковай інтэлігенцыі, зразумелі гэта даўно і—сапраўды жахнуліся. І ўзнялі голас пратэсту. І ўзяліся за справу, за працу. За пошук спосабаў процістаяння канчатковай русіфікацыі, за арганізацыю неабходнай работы па самавыратаванні. Складанасць гэтай задачы ў тым, што руская мова амаль цалкам выцесніла беларускую не толькі ў сферах вытворчых і абслугоўчых, але і ў такіх прэстыжных сферах, як культура, навука, адукацыя. Як і сто гадоў назад, у псіхалогіі шырокіх колаў насельніцтва Беларусі пануе нялюдскі міф, што калі ты хочаш далучыцца да сапраўднай культуры, то павінен адцурацца беларускай мовы і перайсці на рускую, карыстацца рускай. Гэта псіхалагічная настройка заўсёды жывіла і працягвае жывіць рускамоўную традыцыю на беларускай зямлі. Як ні горка гаварыць, але руская плынь не толькі пераважае, але і падаўляе беларускую паўсюдна і скрозь. Беларускамоўныя астраўкі хоць і шырэюць, разрастаюцца — застаюцца ўсё ж астраўкамі ў бязмежнай іншароднай стыхіі. Пераломy не адбылося—бо не адбылося пераходу на ўласны, нацыянальна беларускі тып думання, самапачування. Беларускае ў духоўна-культурным жыцці рэспублікі выглядае ўсё яшчэ нейкім даважкам ці, калі хочаце, дамешкам—дзеля надання экзатычнага «заходне-рускага» каларыту агульнаму культурнаму варыву.

Але тэндэнцыя прарастання ў будучыню больш моцная сёння ў самабытнай беларускай культуры. Толькі ёй патрэбна належная — дзяржаўная і грамадская — падтрымка. І тады пануючай стане яна—што будзе і натуральна і нармальна для цывілізаванага грамадства. Так ёсць у любой незалежнай краіне свету. А рускамоўная культура будзе займаць адпаведнае — не сумняваюся: вельмі значнае!— месца. Значнае, але—не дамінуючае, як цяпер. Руская культура будзе плённа засвойвацца намі—як і дагэтуль, будзе падтрымліваць развіццё беларускай культуры, узбагачаць і жывіць яе. Як і іншыя культуры свету, толькі — у непараўнана большай меры. Адпаведна маштабам і сіле традыцый.

Пытаеце пра шляхі паразумення дзвюх плыняў?.. Наколькі мірным і плённым будзе іх суіснаванне і супрацоўніцтва—залежыць, вядома, ад мудрасці, ад меры чалавечнасці і маральнай вышыні абодвух бакоў. Кажу: абодвух, але асабліва хацеў бы падкрэсліць ролю і абавязак, якія ўскладаюцца ў гэтай сітуацыі на прадстаўнікоў сённяшняй рускамоўнай плыні. Тут будзе мець значэнне перш за ўсё тое, як хутка тэарэтыкі і практыкі русіфікацыі перагледзяць, усаромеўшыся, свае пазіцыі, прызнаюць, што весці далей лінію на асіміляцыю беларускай мовы і культуры—справа, па-першае, ганебная, а па-другое—безнадзейная. Вырастаюць і прыходзяць у жыццё новыя, маладыя пакаленні, якія гэту ісціну зразумеюць своечасова. Дапаможа ім у гэтым новая гістарычная рэальнасць — станаўленне незалежнай беларускай дзяржавы, у якой не на словах, а на справе беларуская мова павінна будзе заняць становішча дзяржаўнай.

**— Вядома ваша прыхільнасць да мовы як кансаліданта народа, нацыі. Але ў сённяшніх варунках нас хутчэй за ўсё з'ядноўвае іншая рэч — люмпенскае маёмаснае становішча. Тут не бачыцца адрозненняў між становішчам прыгоннага калгасніка і, скажам, становішчам народнага паэта, бо амаль усе мы ў сэнсе эканамічным—люмпены. Вам не здаецца, што нас ТАКІХ пачынае з'ядноўваць не мова, не рэлігія, а—рынак і сітуацыя сацыяльнага выжывання? Зараз фармуецца сярэдні клас, які не з'яўляецца, уласна кажучы, беларускай буржуазіяй.**

— Сутнасць пытання — працэс нацыянальнага адраджэння ва ўмовах станаўлення рынку, развіцця прынцыпова іншых эканамічных адносін, іншых асноў гаспадарання. Бясспрэчна, складваецца, фарміруецца г. зв. «сярэдні клас» — у свеце ён здаўна вядомы, як клас буржуазіі. Так, мабыць, і трэба называць—каб не туманіць вочы людзям, якія не здавалі экзаменаў па палітэканоміі. З каго ён утворыцца, гэты новы, «сярэдні клас»? Па-вашаму, і беларускія паэты, г. зн. дзеячы культуры, і «прыгонныя калгаснікі» да класа буржуазіі не далучацца—нас, маўляў, чакае доля люмпенаў. І аб'ядна нас іменна яна, а не любоў і павага да мовы, не прыхільнасць да нацыянальнага беларускага адраджэння. Пытанне няпростае. З гісторыі вядома, што ва ўсіх краінах, якія станавіліся на шлях незалежнасці, маладая буржуазія падтрымлівала нацыянальна-вызваленчы рух, нацыянальнае адраджэнне. Але гэта было даўно, а ў гісторыі раз на раз прыпадае далёка не заўсёды. Ці павернецца тварам да Бацькаўшчыны «сярэдні клас» у Беларусі? Пакуль што прыкмет такога павароту, на вялікі жаль, не відно (асобныя, адзінкавыя праявы сімпатый прадпрымальнікаў да беларушчыны пагоды не робяць). Як не завалодала беларуская ідэя ранейшымі гаспадарамі жыцця—гэтак жа не спяшаюцца даць ёй у душы месца і тыя, хто повен амбіцый і нецярпення загаспадарыць сёння. Зрэшты, многія сённяшнія варацілы—гэта тыя ж варацілы ўчарашнія, толькі ў пераніцаванай скуры. Скуру пераніцавалі, ну, а душа-то асталася той самай—чужой і сцюдзёнай, абыякавай да лёсу нашай мовы і культуры. «А причем здесь язык?!— крычыць такая скасабочаная душа.— Я тоже за независимость Беларуси, но — причем здесь язык?!»

І ўсё ж наднацыянальная хваля — веру ў гэта!— не пахавае пад сабой першыя парасткі беларускага нацыянальнага адраджэння. Паявяцца свядомыя патрыёты-беларусы і сярод прадпрымальнікаў, і сярод высокапасадных чыноўнікаў, і сярод людзей вайсковых. Яны паяўляюцца ўжо. І ў гэтых сацыяльных сферах беларуская ідэя трохі-патрохі пачне знаходзіць разуменне і падтрымку. Толькі трэба больш актыўна гэту ідэю прапагандаваць. І трактаваць яе як ідэю нацыянальнай згоды.

**— Надзея на мову, натуральна, застаецца. Але сёння трэба ўдакладняць, ЯКАЯ мова нас можа з'яднаць. Калі можна чакаць перагляду існуючага правапісу і вяртання ў афіцыйную мову спадчыны Б. Тарашкевіча?**

— Якая мова можа нас аб'яднаць,— зразумела: наша родная, наша цудоўная беларуская мова! Адна з самых прыгожых і мілагучных моў не толькі ў славянскім свеце, але і на абшарах заселенай людзьмі планеты. Мова, дасканала распрацаваная за стагоддзі ва ўсіх магчымых стылях пісьменства. Мова, прызнаная чалавецтвам ужо хаця б за тое, што на ёй створаны геніяльны фальклор і вялікая мастацкая літаратура. Але пытанне я разумею—маецца на ўвазе тое, што з нашай літаратурнай мовай зараз адбываецца. А адбываюцца рэчы, не дазволеныя нават ва ўмовах таго грамадска-палітычнага і духоўна-маральнага развалу, у якім мы сёння знаходзімся. Незадаволеныя правапісам, асноўныя прынцыпы якога былі ўзаконены ў 1933 годзе (удакладненні ў 1957 годзе мелі прыватны характар і лічыцца рэформай не могуць), мы пачалі перайначваць нашу літаратурную мову хто як уздумае—кожны на свой лад. Вядома, рэформа правапісу 1933 года была нашай мове ў цэлым не на карысць, бо зыходзіла з вульгарных палітычных установак (зрабіць яе як мага больш падобнай—і фанетычна, і граматычна, і лексічна, і сінтаксічна — на рускую).

Наспела пільная неабходнасць вярнуцца да правапісу—з тым, каб удасканаліць яго ў інтарэсах самой мовы, у інтарэсах нацыі, якая зусім не думае нівеліравацца і траціць сваё ўласнае аблічча. Патрыёты роднага слова няйначай як пачалі выходзіць з цярпення і самапраўна вяртацца на старонках друку або да граматыкі Бр. Тарашкевіча або і да яшчэ ранейшых беларускіх граматык. Зразумець іх нецярпенне можна, але ўвогуле гэта шлях не з лепшых. Лепш было б спачатку ўзаконіць неабходныя змены ў правапісе. Чаму гэта не зроблена і не робіцца? Больш года назад перад кіраўніцтвам Акадэміі навук Беларусі была пастаўлена задача рыхтаваць навуковую канферэнцыю, каб абмеркаваць—хаця б «у першым чытанні»—праект удасканалення правапісу беларускай літаратурнай мовы. На вялікі жаль, да гэтага часу такая канферэнцыя не адбылася. Віна кладзецца не толькі на навукоўцаў акадэміі, але і на тых, хто павінен выкананне такіх задач кантраляваць—на ўрад рэспублікі і на адпаведныя Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Хачу спадзявацца, што нарэшце нашы мовазнаўцы збяруцца для прафесіянальнай размовы па гэтым пытанні. Колькі ж можна спакойна глядзець, як вуха і вока масавага чытача прывучаюць да неймавернага моўнага разнабою, а ў выніку—насаджаюць жахлівую непісьменнасць. І гэта якраз тады, калі мы ўзялі курс на ўсемагчымае пашырэнне нашай роднае мовы ў якасці дзяржаўнай.

**— Даўно кажам пра прафесіяналізм у адраджэнцтве. Але бываеш у розных калектывах, установах і заўважаеш: усюды аднолькавыя праблемы (са слоўнікамі, літаратурай і да т. п.), а думаюць над імі ў адзіночку, прыкладаючы гераічныя намаганні, зусім не ведаючы, што хтосьці клапоціцца аб тым жа. Вось бы тут злучыць высілкі... Дзіўна: чаму няма адзінага каардынуючага адраджэнска-прафесійнага цэнтра, які б валодаў грашыма і фінансаваў розныя захады, у тым ліку і прыватныя, па рэалізацыі, напрыклад, Закона аб мовах і інш.?**

— Вядома, усякую добрую справу трэба выконваць прафесіянальна, у тым ліку і работу па адраджэнні беларускай нацыі, па беларусізацыі Беларусі. Але справа гэта, апрача прафесіяналізму, вымагае перш за ўсё творчых адносін, асабістай ініцыятывы,—агульныя ж прынцыпы і правіла прадугледжаны законамі і дзяржаўнымі праграмамі. Для аб'яднання высілкаў па беларусізацыі нейкі спецыяльна створаны «адраджэнска-прафесіянальны цэнтр» наўрад ці патрэбен. Давайце, нарэшце, прывыкаць, што Рэспубліка Беларусь — суверэнная, незалежная дзяржава, у якое ёсць урад (Савет Міністраў), абавязаны праводзіць у жыццё законы рэспублікі. У тым ліку— Закон аб мовах, Закон аб культуры, Закон аб адукацыі, Закон аб грамадзянстве,—тыя законы, што ў першую чаргу павінны абараняць нацыянальную годнасць народа. І грошы на фінансаванне праграм і мерапрыемстваў адраджэння, у тым ліку і прыватных — ва ўрада. А хто ж яшчэ, апрача ўрада, матэрыяльна, фінансава падтрымае найважнейшую агульнанацыянальную справу? І чаго ж ён будзе варты, наш урад, калі ён не знойдзе сродкаў на выратаванне мовы і культуры свайго народа?

Што да праблем са слоўнікамі, літаратурай і іншым неабходным для праявядзення ў жыццё Закона аб мовах, то такія праблемы, безумоўна, ёсць. Па-першае, не будзем забываць, што яны ствараюцца наўмысна. Скажам, наўмысна чыняцца перашкоды ў справе выдання беларускай літаратуры, беларускіх часопісаў і газет, іх распаўсюджання і інш. Па-другое, праблемы ўзнікаюць па прычыне нашага няўмення працаваць, нашай безыніцыятыўнасці і непаваротлівасці. Надта ж любім, каб нехта даў гатовае яечка ды яшчэ й аблупленае. Ну, а ўвогуле, гэта зусім натуральна, што наш шлях наперад ляжыць праз выпрабаванні і пераадоленне перашкод. Іншая рэч, што мы да гэтага недастаткова падрыхтаваны, дакладней—вельмі слаба падрыхтаваны. Выйсце адно—набываць належную дзяржаўную форму, кажучы высокім стылем—гартаваць дух свабоды і незалежнасці. З лакейскай аглядкай на гаспадара да запаветнай мэты не дойдзеш.

**— Шчыры дзякуй вам за гэтую гутарку.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# БРЭСТ? БЯРЭСЦЕ? БЕРАСЬЦЕ?

Помнікі пісьменства, летапісы данеслі да нас першапачатковую назву Брэста ў тагачаснай мове і правапісу як «Берестье». Зараз у сувязі з беларусізацыяй гарадам і вёскам Беларусі вяртаюць іх спрадвечныя назвы. Зрасеізаваныя й спольшчаныя назвы будуць у хуткім часе заменены на сапраўдныя беларускія. Мінск зноў стане Менскам, Гродна — Гародняй, Іванава загучыць згодна мясцовым традыцыям як Янава. А вось якую назву будзе мець Брэст?

Доўгі час горад называўся Брэст-Літоўск. Але ж, нягледзячы на тое, што другая частка назвы падкрэслівае беларускі характар паходжання горада, першую частку беларускай назваць нельга. Польскую форму назвы горад атрымаў недзе ў XVI стагоддзі: Бжэсьць, Бжэсьце. Пасля далучэння горада ў 1795 г. да Расійскай імперыі польская назва была механічна, без уліку таго, што ў польскай мове адсутнічае поўнагалоссе, перакладзена на рускую мову. З тых часоў да 1921 г. горад насіў назву Брэст-Літоўск. Пасля таго, як Заходнюю Беларусь захапіла Польшча, горад стаў называцца Бжэсць-по-над-Бугем (Брэст-над-Бугам). Калі ў 1939 г. прыйшлі Саветы, ён стаў проста Брэстам, хаця новымі ўладамі не прымалася адпаведнай пастановы. Трэба адзначыць, што недзе перад самым пачаткам 1-ай сусветнай вайны ў сенаце Расійскай імперыі разглядалася хадайніцтва мясцовых берасцейскіх уладаў пра вяртанне яму спрадвечнай назвы «Берестье». Аднак з пачаткам вайны стала не да гэтага.

Зараз афіцыйна прынятая норма—Брэст. Але ж як жахліва гучыць гэта назва па-беларуску! Яшчэ горш называюць жыхароў горада—брэстаўчане, брэшчане, зрэдку толькі можна пачуць берасцейцы. Тутэйшыя людзі называюць наш горад Бэрэсць, Бэрыćьць. Беларуская эміграцыя карыстаецца назваю Берасьце; на Беларусі ж калі ўжываюць падобную форму, то ў зрасеізаваным варыянце—Бярэсце. Гэтая назва, лічу, непрымальная—яна не адпавядае мясцовым традыцыям. Заўважце, што ў прыведзеных двух мясцовых варыянтах назвы (Бэрэсць, Бэрысць) націск падае на першы склад. У расійскім і беларускім варыянце—на другі. Хацеў бы тут паставіць такое пытанне: а хто вырашаў і калі, што націск павінен падаць у расійскім слове «Берестье» менавіта на другі склад? Мне здаецца, што тут адбылася некалі памылка: націск павінен падаць на першы склад. Існуе версія, што назва горада паходзіць ад слова «бераст» (род вяза). Магчыма, некалі людзі казалі: «А дзе гэта ты быў?» — «А там, дзе бераст («берест», «бэрэст», «бэрыст'е»). Адсюль мо й пайшла назва—«Берестье», а по-беларуску—«Берасьце»? Не пярэчыць гэтаму і версія К. Тарасава, што назва горада паходзіць ад яцвяжскага слова «брэста», што значыць дрэва. Першымі насельнікамі гэтых мясцін, як вядома, былі яцвягі.

Таму прапаную ўсім, хто згадвае горад над Бугам, выкарыстоўваць назву, якая не будзе калькаю з польскай альбо рускай моў, і гэтаю назваю павінна быць форма «Берасьце». А ў рускім варыянце трэба рабіць націск на першы склад—«Берестье».

І. БАРАНОЎСКІ.

# Цар-бацюхна:
## КАМУ ПАТРЭБНА МІФАТВОРЧАСЦЬ

Аляксандр ДРАКАХРУСТ

**7—8 лістапада г. г. у Санкт-Пецярбурзе, былым Ленінградзе, па прыватным запрашэнні пабываў «глава российского императорского дома в изгнании» вялікі князь Уладзімір Кірылавіч. У шэрагу падзей, якія штодня скаланаюць былы Савецкі Саюз, гэта — не такая ўжо важная. Тым не менш, яна мае сваё значэнне, бо з'яўляецца часткай працяглай кампаніі, якая вядзецца пэўнымі грамадскімі коламі і праследуе зусім пэўныя палітычныя мэты. На мой погляд, кампанія гэта ўяўляе несумненную пагрозу дэмакратычным сілам Расіі, яна не можа не выклікаць глыбокай трывогі і ў дэмакратычных рухаў усіх народаў былога Савецкага Саюза, якія цяжка набываюць сваю незалежнасць.**

АДЗІН з персанажаў рамана Ільфа і Пятрова «Залатое цяля», былы папячыцель вучэбнай акругі Хвараб'ёў, страсна марыў пра тое, каб убачыць у сне хоць бы адзін эпізод са свайго дарэвалюцыйнага мінулага. Больш за ўсё хацелася яму бачыць «приезд государя императора в город Кострому». Астап Бэндэр, якому ён паскардзіўся, што замест жаданых «царскіх» да яго кожную ноч прыходзяць толькі «савецкія» сны, даў на гэты конт нейкія няясныя абяцанні, хоць прызнаў, што перамагчы галоўную прычыну нежаданых сноў ён магчымасці не мае.

У наш час, падобна, знаходзяцца людзі (ды што там людзі! Пэўныя — і досыць уплывовыя сілы і грамадскія рухі!), якія горача прагнуць не толькі ажыццяўлення запаветнай мары Хвараб'ёва, але і яўнай матэрыялізацыі ўсялякага роду вернападданаманархічных сноў. Вось ужо некалькі гадоў, як у грамадскай свядомасці настойліва і мэтанакіравана рэанімуюцца і абяляюцца вобраз царскага самадзяржаўя, яго знешняя і, асабліва, унутраная палітыка, яго ідэалогія і сімволіка, — перш за ўсё — сам «государь император». Той самы. Мікалай Другі. Апошні з Раманавых. Уладыка «Великия, Малыя и Белыя Руси», «царь Польский, великий князь Финляндский... и прочая, и прочая, и прочая...» А з ім— і яго папярэднікі, і ўвесь «августейший дом».

Дастаткова хоць бы бегла прачытаць расійскія «нацыяналпатрыятычныя» газеты, часопісы, шматлікія брашуры і лістоўкі, паглядзець тэлеперадачы і фільмы, прысвечаныя такому актуальнаму, на думку некаторых гісторыкаў, пісьменнікаў, тэлевізіёншчыкаў, прадмету, каб з усёй яскравасцю пераканацца: гэта абсалютна свядомая доўгатэрміновая акцыя, якая праследуе выразна выяўленыя ідэалагічныя і палітычныя мэты. (На жаль, не думаючы пра вынікі, даніну гэтай «модзе» аддаюць і некаторыя дэмакратычныя выданні).

На хвалі нацыянальнага адраджэння, выкліканага перабудовай, ва ўмовах, калі расціснуліся сталёвыя абцугі КПСС і яе «ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі», пачала ўздымацца і ўсё больш агрэсіўна праяўляць сябе так званая «руская нацыянальная ідэя», густа замешаная на шавінізме, «почвенничестве», антысемітызме і рэлігійным клікунстве, якая натхняе на барацьбу за захаванне ў непарушнай цэласнасці (хоць бы цаной глыбокіх сацыяльных узрушэнняў, новай кровапралітнай грамадзянскай вайны!) імперскіх дзяржаўных структур і тэрыторый, на ўмаленне і прыніжэнне іншых народаў і народнасцей. У гэтай сітуацыі зусім зразумелым і лёгка вытлумачальным робіцца зварот расійскіх «нацыяналпатрыётаў» усіх напрамкаў і адценняў, у тым ліку і досыць вядомых літаратурных «заединщиков» да «адвечна выратавальнай на Русі ідэі самадзяржаўя» (М. Радзянка).

Што толькі ні робіцца дзеля таго, каб прадставіць скінутага лютаўскай рэвалюцыяй цара, усю дынастыю Раманавых «дадзенымі богам» уладарамі, шчодрымі папячыцелямі і дабрадзеямі рускага і іншых народаў Расійскай імперыі, анёламі ў плоці, якіх неабходна далучыць да ліку святых! (Замежная праваслаўная царква гэта ўжо зрабіла ў адносінах да Мікалая II).

Ад вядомай карціны І. Глазунова з німбамі святасці над галовамі апошніх Раманавых да саладжавых літаграфій, якія прадаюцца на Новым Арбаце і Неўскім, ад абстрактных мёдатачывых публікацый, што смакуюць адносіны Мікалая і Аляксандры і, канешне ж, балерыны Кшэсінскай (Э. Радзінскі ў «Огоньке») да фільма з хлёсткай назвай «Царазабойца», да падаваемых у духу палітычнай сенсацыі паведамленняў аб паўторных раскопках на месцы мяркуемага захавання царскай сям'і і нібыта знойдзеным чэрапе самога цара — усё накіравана на тое, каб уваскрасіць, упрыгожыць, асвяціць у вачах людзей, якія ніколі не жылі пры самадзяржаўным ладзе, імідж апошняга імператара.

Сярод літаратараў і дзеячаў мастацтва, якія прысвяцілі сваю творчасць гэтай задачы, шырэй за ўсё выкарыстоўваецца жыційны жанр. Колькі часу назад давялося мне ўбачыць стужку ленінградскага тэлебачання «Зорка і крыж», якая, на мой погляд, увабрала ў сябе ўсе прыкметы і характэрныя асаблівасці гэтага досыць спецыфічнага жанру. Большая частка стужкі прысвечана лёсу Мікалая II і ягонай сям'і, а калі быць больш дакладным, — іх расстрэлу ў сутарэнні дома купца Іпацьева ў Екацярынбургзе.

Тут я лічу за неабходнае зрабіць некаторае адступленне, каб пазбегнуць абвінавачанняў у прадузятасці, прыхільнасці даўно (і справядліва!) адвергнутага пункту гледжання адносна «самадзейнасці екацярынбургскіх бальшавікоў», недалучанасці вышэйшага партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва (Леніна, Свярдлова і іншых) да фізічнага знішчэння былой царскай сям'і (так, так, — былой!). І гэта, як мне ўяўляецца, факт досыць істотны! Бо ў сакавіку 1917 года Мікалай II сам адрокся ад прастола за сябе і за наследніка і разглядаўся пасля гэтага ўсяго толькі як грамадзянін Мікалай Аляксандравіч Раманаў. Актыўнае непрынякце як па маральных, так і па палітычных меркаваннях выклікаюць у мяне аргументы, якія прыводзяцца ў доказ таго, што пагалоўнае знішчэнне членаў змесценай народам дынастыі было прадпрынята ў сілу «гістарычнай неабходнасці», «палітычнай мэтазгоднасці», «вышэйшых інтарэсаў перамогшай рэвалюцыі», а не элементарнай боязі — зрэшты, малаапраўданай, бо самадзяржаўе было амаль цалкам скампраметавана нават у вачах правячых класаў дарэвалюцыйнай Расіі, — боязі, што Раманавы могуць стаць «сцягам контррэвалюцыі» і тым самым ускладніць барацьбу за сцвярджэнне толькі што захопленай бальшавікамі ўлады.

І вось, бясспуднае пакаранне былога цара і іншых Раманавых — безумоўна акт самавольства, які застаецца на сумленні яго натхняльнікаў і выканаўцаў. Але... але ці ёсць неабходнасць з такім істэрычным і, як мне думаецца, штучным надрывам вылучаць менавіта гэты акт сярод тысяч і тысяч падобнага роду актаў, — бясcудных, бязлітасных, жудасных па сваёй жорсткасці, здзейсненых людзьмі, якія тэарэтычна абгрунтавалі, развязалі і «прыводзілі ў выкананне» чырвоны тэрор і ўсе наступныя масавыя і індывідуальныя рэпрэсіі ў адносінах да простых сялян і геніяльных вучоных, радавых салдат і знакамітых маршалаў, сціплых саўслужачых і паэтаў, якія складаюць славу айчыннай літаратуры? (Адзначым у дужках, што гэта не першае царазабойства ў рускай гісторыі. Цароў і іх наследнікаў і душылі, і труцілі, і саджалі ў казематы. Прычым зусім не рэвалюцыянеры! Гэтых прадстаўнікоў дынастыі чамусьці ніхто не збіраўся і не збіраецца далучаць да святых).

Але ў канчатковым выніку перад абліччам смерці ўсе роўныя. Чаму ж узнікае такі ўпарта раздзьмуваемы ажыятаж вакол пошукаў і ідэнтыфікацыі чэрапа «грамадзяніна Раманава», а не, скажам, рускага генія Мікалая Вавілава, вялікага філосафа, матэматыка і багаслова Паўла Фларэнскага, вялікага паэта Восіпа Мандэльштама? Чаму з такой жа апантанасцю і ўпартасцю не робяцца спробы ўстанавіць прыналежнасць астанкаў, знойдзеных пры раскопках у Курапатах і Быкоўні, у сотнях, тысячах кропках сумнавядомага «архіпелагу»?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба вярнуцца да фільма «Зорка і крыж», у якім прадстаўлены ў гранічна сціслай і таму досыць «аголенай» форме (тэлебачанне!) характэрныя рысы той з'явы, якую нельга назваць інакш, чым апалогіяй самадзяржаўя, спробай уваскрашэння казённа-вернападданніцкай трапятлівасці перад «легитимным властелином».

Зводзячы ўсе факты, праблемы і «праклятыя» пытанні, звязаныя з трохсотгадовым праўленнем дома Раманавых, да крывавай расправы ў Екацярынбурзе, аўтары фільма (гэтак жа, як і публікацый у шматлікіх выданнях) па сутнасці абыходзяць гістарычныя, палітычныя, асабістыя аспекты царскага самадзяржаўя, аддаючы перавагу міфатворчасці, нястрымнай ідэалізацыі тагачаснага рэжыму, па волі ці міжвольна падыгрываючы нізкім інстынктам сучасных чарнасоценцаў (нездарма на стале ў фюрэра «Памяці» Д. Васільева — партрэт Мікалая II), ігнаруючы аўтарытэтныя сведчанні аўтарытэтнейшых гісторыкаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, знаёмых не па чутках з уладаю «господ Обмановых» (А. Амфітэатраў). Гэта ўсё роўна, што, напрыклад, цалкам засяродзіць увагу (у ацэнцы асобы і дзейнасці) на, несумненна, зладзейскім забойстве Троцкага ці фізічным знішчэнні (пры інсцэніроўцы суда) Ягоды, забываючыся ці абыходзячы маўчаннем усё, што здзейснілі яны або што было здзейснена па іх бесчалавечных загадах.

Ах, які відавы рад — з буйнымі планамі, задуменнымі выразнымі вачамі, высакароднымі і дабрачыннымі тварамі сялянскіх старшыняў у дабротных армяках — выбудаваны ў псеўдадакументальнай стужцы «Зорка і крыж»! Ах, які ўрачыста-высакапарны тэкст уперамешку з саладжавымі ўздыханнямі былога спевака савецкай міліцыі, а цяпер апалагета манархіі Гелія Рабава чуецца на фоне музычнага мінора!

Хопіць, панове! Трэба мець хоць бы элементарную гістарычную памяць!

Вось глыбокі элегічны ўздых пра Аляксандра II («Освободитель! Реформатор! Жертва нигилистов, бомбистов, «бесов»...). Усё правільна! А за кадрам жа — сяляне, вызваленыя без зямлі, пакутуюць і бунтуюць, душацца бязлітаснай ваеннай сілай імперыі. І памятны ўсім нам 1863 год. Паўстанне Кастуся Каліноўскага. Адчайная спроба вырвацца з самадзяржаўных путаў, жорстка патопленая ў крыві «царом-вызваліцелем». І Польшча, і Літва. І замярзаючая, сцякаючая крывёй Шыпка, шчыльна прыкрытая дымазаслонай зводак царскай штаб-кватэры («На Шипке всё спокойно...»).

Вось і «полицейское ничтожество» (гэта яшчэ І. Рэпін так казаў пра яго!) — Аляксандр III, чый бронзавы манумент, створаны з бязлітаснай праўдзівасцю П. Трубяцкім, збіраюцца ўстанавіць на ранейшае месца перад Маскоўскім вакзалам горада на Няве. О, тут спрэс мілыя карціны! Якія там «годы дальние, глухие», калі, паводле слоў А. Блока, «в сердцах царили сон и мгла»? Якія там «совиные крыла», распасцёртыя над краінай? Які там голад, апісаны Л. Талстым і Г. Успенскім? Які «Крестный ход в Курской губернии», «Владимирка», «Всюду жизнь»?.. Памыляліся, памыляліся вялікія масты! Не тое ўбачылі і адлюстравалі. Зусім не тое!..

І, нарэшце, апошняе царстваванне.

Але тут лепш звярнуцца не да кінакадраў, якія расказваюць пра падзенне трона і зруйнаванне цэркваў (царкоўнае разарэнне — на сумленні бальшавікоў. Але яно — не апраўданне для дынастыі, для «зверскага» (Л. Талстой) рэжыму, што карысталіся заўсёднай падтрымкай і пастырскім блаславеннем праваслаўнай царквы), а да пісьма вядомага сучаснага пісьменніка, у якім гаворыцца пра запіску, знойдзеную ў біблії адной з дачок Мікалая II («нашага (!) цара»). Пісьменнік з замілаваннем цытуе словы былой вялікай княжны аб тым, што «отец прощает всех».

Аднак ці ёсць тут нагода для замілавання? Куды важней і істотней — ці былі падставы ў народаў, «гаспадаром» якіх ён лічыў сябе (адказ Мікалая на пытанне ўсерасійскага перапісу пра род заняткаў — «Хозяин земли русской»), — даравацъ яму!

Неяк у вячэрняй тэлепраграме я ўбачыў рэпартаж з маскоўскай мастацкай выстаўкі, на якой экспанаваўся партрэт Мікалая II, які не выстаўляўся дзесяцігоддзямі і належаў пэндзлю вядомага рускага жывапісца. Цар, так бы мовіць, з «чалавечым абліччам». Што ж, магчыма ў нейкія моманты свайго жыцця ён быў і такім. Але жыццё і дзейнасць расійскага самадзержца складаліся не толькі з падобных момантаў.

Бесхарактарны, апатычны (гэтыя рысы адзначае ў Мікалаі II нават А. Салжаніцын, які ставіцца да яго зусім не крытычна), выхаваны ў абстаноўцы халопскай ліслівасці і нізкапаклонства, паверыўшы (як і ягоная жонка) у магічную сілу прайдзісвета Распуціна, «божий помазанник», паводле сведчанняў блізкага да дварцовых колаў мемуарыста, бачыў вышэйшую мэту свайго існавання ў «неукоснительной охране основ самодержавия». Абыякавасць да ўсяго, што не тычылася інтарэсаў дынастыі, дзіўная абыякавасць да людзей і іх лёсаў— вось што на самай справе вылучала «государя императора».

У адказ на выказванні сучасных публіцыстаў пра «глубокую сердечность, доброту и христианские добродетели» Мікалая II, пра тое, што седзячы на троне, ён імкнуўся быць «честным и благочестивым правителем, преданным заветам порфироносных предков...» («Неделя», № 34, 1991), — хачу прывесці досыць абстрактную цытату з успамінаў выдатнага рускага юрыста А. Коні, цытату, больш падобную на ўрывак з абвінаваўчага заключэння:

«Мне думается, что искать объяснения многого, приведшего Россию к гибели и позору, надо не в умственных способностях Николая II, а в отсутствии у него сердца. Достаточно припомнить посещение им бала французского посольства в ужасный день Ходынки, когда по улицам Москвы развозили пять тысяч изуродованных трупов... Стоит вспомнить его злобную выходку о «бессмысленных мечтаниях» перед лицом земств после его вступления на престол... Достаточно, наконец, вспомнить равнодушное отношение к поступку генерала Грибского, утопившего в 1900 в Благовещенске-на-Амуре пять тысяч мирного китайского населения... или жестокое отношение к ссылаемым в Сибирь духоборам, где они на севере как вегетарианцы обрекались на голодную смерть, о чем пламенно писал ему Лев Толстой, лишению которого христианского погребения «возлюбленный монарх» не воспрепятствовал...» І далей: «Можно ли забыть Японскую войну, самонадеянно предпринятую в защиту корыстных захватов?.. Можно ли забыть ничем не выраженную скорбь по случаю Цусимы и Мукдена?..»

Чаму ж праз тры чвэрці стагоддзя робіцца ўсё дзеля таго, каб цалкам і безагаворачна апраўдаць самадзержца толькі на той падставе, што пазней у нашай краіне прыйшлі да ўлады «самадзержцы» куды больш бессардэчныя і жорсткія? Як можна не бачыць відавочнага? Відаць, для гэтага трэба валодаць асаблівым, выбарчым зрокам.

Увайшлі ў гісторыю царскія тэлеграмы, рэзалюцыі, выказванні. Яны начыста выкрываюць старанна ўваскрашаемыя і выпеставаныя легенды.

Узяць, напрыклад, рэзалюцыю на прысудзе групы рэвалюцыянераў. Мікалай лаканічны: «Надеюсь, повешены». Альбо размашысты надпіс на рапарце аб дзеяннях палка, які «вызначыўся» пры падаўленні «рабочых беспарадкаў» у Яраслаўлі (былі забітыя і параненыя). Мікалай перапоўнены ўдзячнасцю: «Царское спасибо молодцам-фанагорийцам.»

Неяк не стасуецца ўсё гэта з «сардэчнасцю», «дабратой» і «христианскими добродетелями»!

Нездарма І. Рэпін, які бачыў самадзержца і яго блізкіх, як кажуць, тварам у твар (аўтар знакамітай карціны «Заседание Государственного совета» пісаў для яе з натуры ўсіх царскіх саноўнікаў і самога цара), абураўся ў адным з пісем гэтага перыяду: «...Что за нелепость самодержавие; какая это невежественная, опасная і отвратительная по своим последствиям выдумка...»

